PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 19 (1982) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 8 МАЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



*Найпрыгажэйшыя вобразы малюе сама прырода.* Фота У. Завадскага

## ПАСЛОЎ СПРАВА НЕ ЦІКАВІЛА

**6 красавіка 1994 г. адбылося пасяджэнне сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцяў, прысвечанае школьніцтву ў няпольскім асяроддзі. Пра гэтую сустрэчу гутарым з дырэктарам Пачатковай школы н-р 3 у Бельску, старшынёй грамадскай Камісіі па рэформе беларускага школьніцтва ВАСІЛЁМ ЛЯШЧЫНСКІМ.**

*— Хто прымаў удзел у сустрэчы?*

— Прадстаўнікі ўкраінцаў, немцаў, славакаў, літоўцаў, ромаў (цыганоў) ну і мы, г.зн. візітатар Беластоцкай куратoрыі, аўтар падручнікаў і праграм навучання па беларускай мове ў пачатковых школах Тамара Русачык і я. Ад Міністэрства нацыянальнай адукацыі быў Мірaслаў Савіцкі, у ранзе дырэктара дэпартамента. Коратка прысутнічаў віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела. Сустрэчу вёў старшыня камісіі, пасол Яцэк Курань. Былі яго намеснікі, адзін з якіх — немец Генрык Кроль. Быў таксама ўкраінскі пасол ад Дэмакратычнай уніі, Міраслаў Чэх, ды пару нічым не зацікаўленых асоб, да якіх трэба аднесці і Сяргея Плеву. Увайшоў ён, прыблізна пасля гадзіны — у чорных акулярах — пасядзеў зззаду хвілін пяць, забраўся і пайшоў сабе. Нават не пацікавіўся, ці ў зале ёсць беларусы. У той час нямецкія паслы сядзелі побач немцаў, украінец — каля сваіх...

*— Як праходзіла сама сустрэча?*

— Раней кожнае нацыянальнае асяроддзе выслала свае пастулаты адносна змен у школьніцтве. Камісія сабрала іх на адну картку, старшыня чытаў пункт па пункце, а дырэктар Савіцкі адразу даваў, ад імя міністэрства, каментары, наогул падобныя: таго нельга зрабіць, гэтага няма каму, на тое ўжо запозна, а ўвогуле, то няма грошай. Дырэктар Савіцкі аказаўся проста чалавекам зусім не азнаёмленым з праблемамі асветы ў асяроддзях нацыянальных меншасцяў. Высылаў, напрыклад, украінцаў ці нас па падручнікі і дапаможнікі ў Кіеў або Менск (немцаў чамусьці ў Бон не высылаў). А куды пасланць ромаў? Потым сказаў, што добра было б сустрэцца ў міністэрстве „wstępnie”. Вы сабе ўяўляеце, сустрэцца, каб пазнаёміцца!? Як быццам ніхто пра нас раней не чуў. Не было нас ці як?

Да інвестыцый у школьніцтве нацыянальных меншасцяў уключыў ён „нямецкую” школу ў Згажэльцы, на што адразу запратэставалі самі зацікаўленыя, заяўляючы, што там немцаў няма. Літоўцы звярнулі ўвагу, што ў Сейнах няма літоўскай школы і ўкладзеныя туды грошы ніяк не можна супастаўляць з гэтай нацыяй. Падобныя засцярогі мелі таксама ўкраінцы.

***— А якія інвестыцыі прадбачыла міністэрства ў школьніцтве сярод беларусаў?***

— Гімнастычная зала пры Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы — звыш 10 мільярдаў, школа ў Орлі — 4,6 мільярда, гімнастычная зала ў „тройцы” — 2,2 мільярда і не памятаю па колькі на школы ў Кляшчэлях і Нараўцы. Пачуўшы пра суму на сваю школу, я хацеў упэўніцца, ці гэта праўда (месяц раней куратар гаварыў мне пра 1 мільярд). У адказ пачуў, што нічога напэўна, бо яшчэ не зацверджаны бюджэт. Але, калі нешта будзе мяняцца, дык напэўна ўніз.

☞ *Працяг на стар. 4*

## СМЕРЦІ НЯМА, І ЖЫЦЦЯ НЯМА

Вёска Бярнацкі Мост, у народзе — Бярначчына. Халодная вясна. На полі за рослым канём з бараною ходзіць сівавалосы Ваня-кавалер. Тут пасее „мяшанку” — авёс з ячменем. На падворках людзі робяць парадкі. На адным з іх бачу свайго былога настаўніка беларускай мовы (вучыў мяне адзін год у Семяноўцы), Пятра Карпюка. Праўда, ён тады быў маладзенькі, а цяпер яму ўжо за сорак, мажны, барадаты. З дочкамі Ілёнай і Госяй прыехаў да старэнькіх хворых бацькоў. Прыязджае сюды кожную нядзелю, дапамагае. Дзяўчынкі вучацца ў гайнаўскай „двойцы”, Малгося прымала ўдзел у дэкламатарскім конкурсе... Сёння таксама дапамагаюць бацьку заграбаць пілавінне і трэскі ад дроў, а побач, на інвалідскім вазку сядзіць дзедка.

— Бачыш, у нас тут цяпер жыве чалавек дзевяць. Амаль усе пенсіянеры, — пачынае Пеця. — Ёсць чатыры сем'і, у якіх ёсць маладыя ці дзеці, толькі не ведаю, ці штосьці змогуць зрабіць з вёскаю; у Савіцкага, Гарустовіча, Шаршуновіча аднаго і другога. А апошнія вось так жывуць: укормяць якое свінчо, пару курак. А людзі, якія тут, то людзі пушчы, усё жыццё змагаліся з пушчанскай звярынай, каб штось-небудзь выгадаваць, вырасціць, а цяпер, як не сталі рабіць на палетках, то яна забірае сваё, што ёй выдзерлі. Такія ёсць правы прыроды... А цяпер, як пачалася вясна, паглядзі — якая прыгажосць! — Пятро набірае поўныя грудзі паветра, глядзіць у бок неадлеглага бору. — Паслухай птушак. Сёння я раніцай, як прыехаў з Гайнаўкі, выйшаў з машыны — то як у птушыным раі апынуўся. Тут так цудоўна вясной, летам, і вёска тады ажывае — усе з'язджаюцца з гарадоў. Дзеці, унукі прыязджаюць. Пустыя хаты напаўняюцца гоманам. Але толькі на адзін сезон. І хаты пустуюць, цярпліва чакаюць іх прыезду, тых канікулаў, двух месяцаў. А так — цішыня, да Нараўкі шэсць кіламетраў, крамы няма...

— Тут і таблічы паказваюць нейкі „Бернадзкі Мост”, — заўважаю.

— Вось непрыемная рэч, якую нам „упарола” адміністрацыя ў Гайнаўцы, гэта тыя паказальнікі. Змянілі нехта старэцкую назву. Адна літара, але колькі работы. Тапографы цяпер карыстаюцца той „новай назвай”. Я інтэрвеніяваў у Нараўчанскай гміне, але там сказалі, што гэта ў кампетэнцыі Упраўлення дарог, — кажа ўсхваляваны Алесь, для якога Бярначчына — радзінная вёска; ён нарадзіўся вось за гэтым лесам.

— Ну, жывуць людзі ў „зняверанай” Бярначчыне. Я чула, што тут калісьці і немцы жылі.

— Вось там іхнія магілкі, а тут, дзе гэты стары куст бэзу, стаяла кірха, — паказвае Пятро. — Больш скажа пра гэта мой тата.

— Пакрысе во працую, грабаюся, — уздыхае дзядзька Рыгор Карпюк на вазку. — Вы пра немцаў... Яны тут былі яшчэ перад царскаю вайною. Цар іх на Валынь перасяліў. Зямля ў нас харошая была, і пакінулі яны сваю зямлю. Гаспадары былі, як і мы. Жылі на „Тарпіле” ў лесе. Усё там цяперака зарасло. Вось толькі такая памятка пасля іх засталася — могілкі. Потым пачалі тут збірацца яшчэ і іншыя — і праваслаўныя, і католікі, пакупілі зямлі. Наш дзед — з Капітаншчыны. А Шаршуны — з Рукава, то дзесьці ля Беразіны. А з „новых”? Тут адзін з Варшавы прыехаў, купіў кавалак зямлі, студню выкапаў, і з'ехаў. А мёў будавацца.

Пеця накідае на воз пілавінне. Сакочуць па-красавіцку куры. Рыгор маўчыць, успамінае.

— Да Гнільца да станцыі — чатыры кіламетры, добры кавалак. Як засыпле снегам, то вёска „забітая дошкамі”, як той казаў. Калісь, як тут клалі пуці з Цісоўкі ў Гайнаўку, трыццаць год таму, „пэпээрка” тут была, і перон, і будынкі. Замест пакінуць хоць бы адзін будынак, перон, зрабіць станцыю ці хоць паўстанак, усё гэта ліквідавалі. Ніхто не пісаў, не стараўся...

☞ *Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Dlaczego w siedzibie polskiego parlamentu znajdują się bufety z alkoholem? Przecież skutki takiej decyzji widać gołym okiem,* — пыталі жыхары Крынак на сустрэчы з паслом Збігневам Рэлігай.

Пасол адказваў: *Decyzja o likwidacji sprzedaży alkoholu* (w siedzibie parlamentu — red.) *nie byłaby słuszna —przecież ludzie dla zaspokojenia swoich potrzeb wychodziliby poza budynek Sejmu i jeszcze rzadziej uczestniczyliby w obradach.*

*(Gazeta Współczesna, nr 73)*

Свой хлопец, гэты спадар Рэліга!

* * *

*Na Suwalszczyźnie jest 5 szkół podstawowych z litewskim językiem nauczania oraz 5 szkół z litewskim jako przedmiotem dodatkowym, w Puńsku działa liceum z litewskim językiem wykładowym.*

*(Gazeta Współczesna, nr 74)*

Каб нам, беларусам, мець прынамсі адну школу з роднай мовай навучання! Літоўцаў у Сувальскім ваяводстве налічваецца толькі 6 тысяч.

* * *

*Dawniej głoszenie ideologii faszystowskiej mogło skończyć się kryminałem. Dzisiaj Bryczkowski — lider Polskiego Frontu Narodowego oświadcza, że program hitlerowskiej partii NSDAP był fajny i pod tym programem każdy człowiek mógłby się podpisać.*

*(Polityka, nr 15)*

* * *

*Matka Żyrynowskiego była zamężna z Wolfem Żyrynowskim, ale ten zmarł 18 miesięcy przed narodzinami Władimira. Pani Żyrynowska powtórnie wyszła za mąż za Izaaka Eidelsteina i z tego związku urodził się lider LDPR.*

*(Polityka, nr 16)*

Гаспадзін Вольфавіч у сапраўднасці называецца Ізаакавіч. Не мяняе гэта факта, што з'яўляецца ён вар'ятам, які можа дасягнуць найвышэйшай улады ў Расеі.

* * *

*Дваццаць гадоў беларусы г. Беластока дабіваліся названня дзвюх вуліц у іхнім горадзе імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа, ну і дабіліся: дзвюм палявым сцяжынкам па-за горадам, пры якіх няма і, відаць, ніколі не будзе ніводнай хаціны, затое пры іх гніюць горы смецця ды розных адкідаў, „айцы” Беластока „прысвоілі” імёны нацыянальных паэтаў. Затое ў Беларусі ў кожным горадзе да найпрыгажэйшых належаць вуліцы Міцкевіча, Агінскага, Ажэшка.*

*(Царкоўнае слова, н-р 2)*

* * *

*Polacy uważali się kiedyś za ludzi honoru, a polskie elity miały na tym punkcie szmergla. Punktem honoru elit było zaś przede wszystkim pierwszeństwo racji publicznej przed interesem osobistym. Było — bo na naszych oczach już przestaje być. Nie szokują już zdarzające się wszędzie złodziejstwo, korupcja, malwersacje i przestępcze nadużycia.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 89)*

Варожкі гавораць, што набліжаецца час апакаліпсіса.

* * *

*Jestem optymistką l. 29 i oczekuję na odzew praktykującego katolika kawalera lub wdowca z wyższym wykształceniem.*

*— Z rubryki „We dwoje”*

*(Kurier Poranny, nr 73)*

Дзеўка заяўляе, што шукае толькі „практыкуёнцэго”, які неабавязкова мусіць быць веруючым. І гэта разумна, бо „практыкуёнцых” ёсць шмат мільёнаў, а веруючых... хто іх бачыў.

* * *

*Najbardziej zaradni profesorowie Warszawskiej Szkoły Głównej Handlowej oraz innych uczelni ekonomicznych osiągają dochody przekraczające miliard złotych rocznie. Na Uniwersytecie Warszawskim zarabiający pół miliarda nie budzą zdziwienia. Rekordziści zatrudniali się nawet na kilkudziesięciu etatach jednocześnie.*

*(Wprost, nr 15)*

Спадары прафесары працуюць 48 гадзін у суткі, а навука проста квітнее.

* * *

*Na uczelniach opracowuje się najczęściej programy, na które otrzymuje się ogromne dotacje. W rzeczywistości wiele instytucji pozoruje tylko działalność badawczą, aby nie stracić przydzielonych funduszy. Wyniki tych pseudobadań można znaleźć już od kilkudziesięciu lat w byle zachodnim podręczniku.*

*(Wprost, nr 15)*

Знайсці можна, але якая радасць, калі чалавек сам дойдзе да мэты, якую сабе паставіў. А пры нагодзе ўзрастае паказчык працоўных у галіне навукі.

* * *

*Pan Prezydent dość sprawnie zaczął używać pana premiera jako sochy do „uprawiania” parlamentu.*

*(Najwyższy Czas, nr 14)*

Неўзабаве ўзнікне новая галіна палітыкі. Называцца пэўна будзе „oralistyka”.

* * *

*Hitlerowcy w okrutny sposób dręczyli i mordowali jeńców radzieckich za przyczyną Stalina, który nie podpisał konwencji o humanitarnym traktowaniu żołnierzy wziętych do niewoli. Taką tezę rozgrzeszającą niewinnego Adolfa (znanego w historii z dotrzymywania podpisywanych zobowiązań) postawił redaktor Wołoszański w programie „Tajna historia ZSRR” nadanym w programie „Telewizji Edukacyjnej”. Można przypuszczać, że równie fatalnie postąpili Żydzi. Gdyby podpisali stosowną umowę z Hitlerem, to tenże nie musiałby w znany sposób rozwiązywać kwestii żydowskiej.*

*(Polityka, nr 15)*

* * *

*Radni warszawskiej dzielnicy Ursynów przegłosowali uchwałę przekazującą plac budowlany miejscowej parafii. Planowano budowę domu mieszkalnego, obecnie będzie kościół. Dwóch radnych było zdania, że mieszkania są podstawową potrzebą mieszkańców, dwudziestu wyraziło opinię zupełnie odwrotną, 10 nie miało zdania.*

*(Życie Warszawy, nr 84)*

Нас асабліва абурае стаўленне тых двух райцаў, якія лічаць, што кватэра людзям больш патрэбная, чым касцёл. Гэта ж крайняя форма матэрыялізму. Больш ідэйнасці, спадары... ідэйнасці!

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнты Лех Валэнса і Альгірдас Бразаўскас** падпісалі трактат аб дружалюбных адносінах і добрасуседскім супрацоўніцтве паміж Польскай Рэчыпаспалітай і Літоўскай Рэспублікай. На думку А. Бразаўскаса, трактат „пашырае шлях у Еўропу”, а паводле Л. Валэнсы — „стварае шанц збудаваць прыгожае пагадненне, якое трэба напоўніць зместам, ад якога будзе залежаць яго велічыня”. Прэзідэнт А. Бразаўскас бараніў права Літвы на ўласную ацэнку мінулага. Сказаў ён, што Літва не адмовіцца ад свайго прынцыповага становішча: Вільня і Віленшчына ў міжваенны перыяд належалі Польшчы толькі дэ-факта, але не дэ-юрэ. Падкрэсліў ён таксама, што ў кастрычніку 1939 г. Вільня і абшар вакол ёй былі законна перададзены Літве. „Вільня, — сказаў прэзідэнт, — была адабрана ў Літвы сілай, да 1920 года яна ніколі не належала Польшчы і далучэння гэтага Літва ніколі не прызнала”.

**Унія вольнасці** — так называецца новая палітычная партыя, якая ўзнікла ў выніку аб'яднання Дэмакратычнай уніі і Ліберальна-дэмакратычнага кангрэса. Згодна ранейшым пагадненням абедзвюх партый лідэрам новастворанай партыі стаў **Тадэуш Мазавецкі**, а яго намеснікам — **Дональд Туск**.

**Маўзалей Леніну** наведала некалькі соцень жыхароў Масквы, каб такім чынам адзначыць 124 угодкі з дня нараджэння правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі. Паклоннікі Леніна і апалагеты Савецкага Саюза прыбылі да маўзалея з партрэтамі, чырвонымі сцягамі і транспарантам з надпісам: „Вялікі Ленін — сын вялікага рускага народа”.

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава** — Праваслаўны вайсковы ардынарый Войска Польскага нанёс візіт шэфу Ваяводскага вайсковага штаба — камандзіру Беластоцкага гарнізона палкоўніку **Станіславу Брындзу**. У часе сустрэчы ўладыка Сава рэкамендаваў а. **Аляксея Вайцюка** капеланам Гарнізона Беласток. У ходзе спаткання абмяркоўвалася справа ўдзелу Войска Польскага ў патрыятычна-рэлігійных урачыстасцях, арганізаваных з нагоды дзяржаўных святкаванняў і гістарычных угодкаў. Урачыстае адкрыццё дзейнасці Праваслаўнага ардынарыята ВП адбудзецца 12 чэрвеня г.г. у Саборы св. Мікалая ў Беластоку.

**У Сучаве** адбыўся III нечарговы з'езд **Саюза палякаў у Румыніі**. За час ад папярэдняга з'езда ў 1991 годзе адбудаваліся арганізацыйныя сувязі Саюза, якія непасрэдна выводзяцца з традыцыі і дасягненняў польскага руху з пачатку стагоддзя. Апошнім часам 33 маладыя жыхары Букавіны вучацца ў польскіх вышэйшых навучальных установах, выйшла 15 нумароў квартальніка „Polonus”, які неўзабаве стане месячнікам.

**Лясная плошча ў Беластоку** і ў зоне вакол горада займае каля 2 тысяч гектараў. У мінулым годзе на пажарную ахову і ўборку гарадскіх лясоў выдаткавана з бюджэту амаль мільярд злотых. Лясную зону вакол горада строга ахоўваюць законы і не будзе яна выкарчоўвацца пад будову новых кварталаў.

**У Гайнаўцы** адзін з жыхароў гэтага горада, які ў снежні мінулага года выйшаў з турмы, так моцна пасварыўся са сваёй незаконнай жонкай, што абліў яе дэнатуратам і падпаліў. Жанчына трапіла ў бальніцу, а рэцыдывіст — зноў у следчы ізалятар.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „У НІВЕ”

- Штодзённае жыццё грамадзян Беларусі.
- Праблемы з навучаннем беларускай мовы ў Орлі.
- СКРы — нікому непатрэбныя.
- Ці паедзем яшчэ цягнікам з Гайнаўкі ў Бельск?

**25 красавіка 1994 года**
**на 58 годзе жыцця**
**памёр**
**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**
**журналіст „Нівы”**
**ў 1965—1975 гадах.**

**Рэдакцыйны калектыў смуткуе разам з сям'ёй Нябожчыка і выказвае Яго блізкім словы шчырага спачування.**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Выбар усяго жыцця

„Я зрабіў свой выбар і аб ім не шкадую. Гэта выбар усяго майго жыцця. Я гатоў ахвяраваць усім, каб давесці пачатую справу да канца. Я глыбока перакананы, што ў саюзе з Расеяй наша выратаванне, будучыня нашых дзяцей і ўнукаў. Аднак, канчатковае слова павінен сказаць народ”, — так пракаментаваў прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч вынікі падпісання 12 красавіка г.г. у Маскве пагаднення аб аб'яднанні грашовых сістэм Расеі і Беларусі. Кіраўнік урада сказаў таксама, што беларускім парламентарыям прыйдзецца цяпер разгледзець пытанне аб унясенні змен у дзеючую Канстытуцыю, пазбавіўшы тым самым Нацыянальны банк рэспублікі прыярытэту ў вызначэнні эмісійнай палітыкі на тэрыторыі Беларусі і перадаўшы гэту і некаторыя іншыя функцыі ў кампетэнцыю Цэнтральнага банка Расеі. У выпадку нязгоды Вярхоўнага Савета правесці гэтыя маніпуляцыі з асноўным законам, Вячаслаў Кебіч мае намер ініцыяваць правядзенне па гэтаму пытанню ўсенароднага рэферэндуму. Прэм'ер паведаміў аб вылучэнні рэспубліцы ў I паўгоддзі г.г. 200 млрд. рублёў у выглядзе беспрацэнтнага крэдыту на перыяд збалансавання грашовых сістэм дзвюх дзяржаў. У выпадку скасавання дагавора гэтую суму прыйдзецца вярнуць Расеі.

### Меркаванне МВФ

Дэталі падпісаных у Маскве дакументаў аб аб'яднанні грашовых сістэм Расеі і Беларусі вывучае Міжнародны валютны фонд. „Пакуль мы не можам даць адназначнай ацэнкі гэтаму пагадненню, аднак асабіста мне ўяўляецца, што яго вынікам стане новы віток інфляцыі, — заявіў адзін з вядучых экспертаў Фонду праф. Томас Вулф. — Якімі б палітычнымі прычынамі не кіраваліся пры стварэнні валютнага саюзу Масква і Менск, для яго забеспячэння неабходна выкананне адразу некалькіх умоў. Па-першае: гэта беспераішкодны абарот грашовай масай, па-другое: строгае захаванне дэклараваных абавязацельстваў і, па-трэцяе: наяўнасць інстытутаў, якія забяспечваюць стабільнасць цэн. І вядома ж, галоўнае: правядзенне грашова-крэдытнай палітыкі адзіным органам кіравання”.

### Латышская нота

Міністэрства замежных спраў Беларусі атрымала афіцыйную ноту Міністэрства замежных спраў Латвіі з просьбай даць тлумачэнне слоў міністра Пятра Краўчанкі аб быццам бы маючай месца дыскрымінацыі беларусаў у Латвіі. 5 красавіка, пасля перамоў з генеральным сакратаром ААН Бутрасам Галі, П. Краўчанка заявіў, што адным з галоўных пытанняў перагавораў было выкананне абавязацельстваў Латвіі і Эстоніі адносна беларускамоўнага насельніцтва гэтых краін і сітуацыя з беларускамоўным насельніцтвам Латвіі і Эстоніі. Краўчанка абвінаваціў гэтыя дзве балтыйскія краіны ў тым, што пражываючыя там беларусы падвяргаюцца моўнай дыскрымінацыі.

### Польскія дэмакраты

Нягледзячы на тое, што Польскае дэмакратычнае згуртаванне на палітычным небасхіле Беларусі ўзнікла зусім нядаўна, яго арганізацыі дзейнічаюць ужо ў многіх гарадах. Утвораны ўжо гарадскія арганізацыі ў Лідзе і Шчучыне. У Нясвіжы — адна з самых вялікіх ячэек ПДЗ па колькасці членаў — тут іх амаль сто чалавек. Створаны абласныя камітэты ў Менску і Гродне, плануецца абласная канферэнцыя ў Брэсце. Мяркуецца таксама збіраць подпісы ў падтрымку вылучанага радай партыі на пасаду першага прэзідэнта Беларусі лідэра ПДЗ Эдварда Ахрэма.

### Добраахвотнае падполле

Па шляху ленінскай „Іскры” выпрашылі пайсці камуністы горада Салігорска, пачаўшы тут выдаванне газеты „Наш шлях”. Газета не толькі нідзе не рэгістравана, але не мае і выхадных даных, што дазваляе аднесці яе да разраду падпольных выданняў. Іншае пытанне: ці будзе яна мець уплыў на людзей? Нумар выйшаў тыражом усяго 10 экземпляраў.

### Трагедыя ў Кобрыне

У Кобрыне па вуліцы Новай, непадалёк ад ваеннага аэрадрома прагрымеў выбух, ад якога пацярпела восем дзяцей і падлеткаў. Самы старэйшы ўдзельнік трагедыі — 17-гадовая дзяўчына ад атрыманых ран памёрла. Яшчэ трое дзяцей знаходзяцца ў цяжкім стан[illegible] Астатнія атрымалі раненні рознай ц[illegible]касці. Дзеці знайшлі авіяцыйны аскол[illegible]ны боепрыпас, які спрабавалі разабраць у двары. Як небяспечны прадмет апынуўся ў руках дзяцей, высвятляюць ваенныя, міліцыя і кампетэнтныя следчыя органы.

### Незвычайнае пахаванне

У Баранавічах адбылося незвычайнае пахаванне, пра якое доўга будуць расказваць у горадзе. Хавалі мясцовага аўтарытэта па рэкету. Людзі сцвярджаюць, што толькі на вянкі, выраблены па спецыяльнаму заказу са штучных кітайскіх кветак, было затрачана 12 млн. рублёў, а сама труна каштавала каля 10 мільёнаў. Што ж паслужыла прычынай смерці гэтага легендарнага мафіёзі? Афіцыйныя крыніцы тлумачаць: у Баранавічы нейкая фірма з далёкай Хакасіі накіравала транспарт для перавозу гуманітарнага грузу і ўзброеную варту для яго суправаджэння і, менавіта на іх, наехала каманда баранавіцкага рэкета. Інцыдэнт завяршыўся кулямётнай чаргой.

# ЯК ІВАН ЖАНІЎСЯ

Было гэта позняй восенню. Іван з Васілём, жыхары Трасцянкі, выбраліся на рынак у Гайнаўку парасят прадаваць. Таргоўля пайшла вельмі добра: прадалі хутка і за добрую цану. Пасля такой удачы трэба барыш выпіць; узялі бутэльку гарэлкі і выпілі на возе-жалезняку. Ад'язджаючы дадому купілі яшчэ адну бутэльку гарэлкі, каб пагрэццаў дарозе. Едучы згаварыліся, што добра было б зайсці ў нейкую хату, каб там пагрэцца. Тады Іван падаў думку, каб заехаць да нейкай удавы ў вёсцы Ваські; ён будзе прыкідвацца ўдаўцом, які хоча жаніцца, а Васіль будзе раёк, маршалак. Такая прапанова спадабалася Васілю, бо гэта давала надзею на далейшую п'янку, цяпер ужо дармовую. У Васьках першага напатканага мужчыну пыталі ці ў вёсцы ёсць удава, якая магла б пайсці замуж. Мужчына падумаў хвіліну і паказаў, дзе жыве тут такая ўдава. Іван з Васілём падзякавалі і паехалі проста на ўдовін панадворак, дзе сустрэлі жанчыну гадоў пад сорак. Жанчына запрасіла гасцей у хату і там завязалася гутарка на розныя тэмы, а Васіль запрапанаваў, каб прапаласкаць горла гарэлкай, якую яны маюць з сабою. Гаспадыня зрабіла на хуткую руку закуску і паставіла на стол. Калі выпілі па адным, а потым па другім кілішку, Васіль, быццам бы маршалак, пачаў гаварыць, што ён прыехаў у райкі і прывёз жаніха, удаўца з Трасцянкі, добрага гаспадара, якому самому жыць цяжка. Удава Манька, выслухаўшы Васіля і глянуўшы на маладога і пpыгожага Івана, падумала, што будзе з яго добры мужык. Калі выпілі яшчэ па адным кілішку, Манька сказала, што яна згаджаецца пайсці замуж, паколькі Іван ёй надта падабаецца. Прынесла яна сваю бутэльку гарэлкі, паставіла на стол і сказала, што пакліча суседзяў і сваякоў, каб пабачылі, за каго пойдзе яна замуж у слаўную ў цэлай ваколіцы Трасцянку. Так і сталася: неўзабаве прыйшлі суседзі і родныя — усіх адзінаццаць чалавек. Манька заставіла сталы рознай закускай і гарэлкай. Іван з Васілём сядзяць ганарыста за сталом, гарэлку папіваюць. Цэлая выпіўка закончылася перад усходам сонца. Перад гэтым Манька ўзяла Іванавы дакументы і запісала прозвішча, каб ведаць, як яна будзе называцца, калі выйдзе замуж. Дагаварылася яна з Іванам, што прыедзе ён да яе ў нядзелю. Васіль з Іванам падзякавалі за прыём і паехалі. Цэлую дарогу смяяліся, што ўдалося ім дарэмнай гарэлкі напіцца. У нядзелю Іван не паехаў у Ваські, бо куды ж яму, жанатаму мужчыну, ехаць? Мінула і другая нядзеля, а Манька ўсё чакала Івана. Розныя думкі прыходзілі ёй у галаву: мо няшчасце якое здарылася, калі п'яныя ехалі. Вырашыла Манька паехаць да Івана з суседам. Як задумала, так і зрабіла. Прыехала ў Трасцянку, запытала ў людзей, дзе Іван жыве, ды паехала проста на панадворак. Там сустрэла жанчыну з вядром вады і сказала ёй, што хоча пабачыцца з удаўцом Іванам, які быў у яе ў райках. Жанчына тады выявіла, што яна — Іванава жонка, што ніколі не памірала і што зараз прывядзе жаніха-„ўдаўца". Якое было здзіўленне, калі Іван убачыў Маньку, якая аж трэслася ад злосці. Што там, у той сітуацыі, рабілася, можаце ўявіць! У той час Васіль, які жыў блізка Івана, прыглядаўся ўсяму гэтаму з-за вугла і баяўся, каб і з ім не адбылося тое, што з Іванам. „Навошта нарабілі мы сабе такога сораму? — думаў Васіль. — Што будзе, калі суседзі пра гэтую жаніцьбу даведаюцца?" Узіраўся ён на Івана, які стаяў моўчкі, слухаючы жаночыя палаянкі. На гэтым, аднак, справа не закончылася: Манька зажадала, каб Іван заплаціў ёй за ўсе яе, звязаныя з „жаніцьбою" расходы. Была гэта немалая сума — тады на гэта трэба было прадаць дзве каровы. Манька вызначыла тэрмін заплаты і сказала, што пасля гэтага тэрміну падасць на яго ў суд. Іван думаў, што гэта няпраўда, што Манька жартуе. Але яна не жартавала і падала яго ў суд. Суд адбыўся ў Бельску і прысудзіў Івану звярнуць Маньцы ўсе расходы і кампенсаваць маральную крыўду. Уся гэтая „жаніцьба" каштавала яго тры каровы. Іванавы дзеці і жыхары вёскі смяяліся і пыталі, калі ён збіраецца жаніцца. Васіль, раёк, сароміўся выйсці на вёску, бо пры кожнай сустрэчы яго пыталі, ці прыгожы ручнік далі маршалку.

Сваімі жартамі з сябе зрабілі пасмешышча.

МІКАЛАЙ ПУЧКО

# Пакуль што сваіх не кранаюць!

Мой абсурдны вопыт не варты апавяшчэння. Усё ж такі можа ён спатрэбіцца ўсім „народнікам", якія пойдуць у „гушчавіну жыцця", а таксама беспрацоўным беларусісткам, каб, будуць безнадзейна шукаць працы „на роднай ніве" і сустрэнуць яшчэ адну не прадбачаную магчымасць заробку. Датычыць ён, словам, усіх, хто будзе карыстацца беларускай літаратурнай мовай.

Да гэтай пары Новае Ляўкова асацыявалася мне з калегам „Пекарам", які недзе адгэтуль родам. Зараз жа мае ўяўленні намнога пашырыліся. Нядаўна трэба мне было завітаць у гэтую вёску. Узнікла малая праблема. На аўтобусным прыпынку не было інфармацыйнай табліцы. Але на прыпынак прыйшло яшчэ трох мужыкоў. Гаманілі яны на беларускай сакавітай мове, рагаталі, безупынна курылі і плявалі. Я, дзеля „інтэграцыі з народам" вырашыла пагаварыць з імі аб іх нялёгкіх нацыянальна-эканамічных праблемах. Размову пачала з пытання пра аўтобус, маршрут, гадзіну. Якое было мае здзіўленне, калі адказы пачула я на руска-польска-беларускай трасянцы. Хутка аднак разабралася: яны падумалі, што я — „расіячка".

Мужыкі адышлі некалькі метраў ад мяне і пачалі між сабою шаптацца. Неўзабаве трапіўся іх „добры знаёмы" на пажарнай машыне і ў такой жа форме. Пачула я іх прагныя, пажадлівыя вочы на сваёй зусім непрэтэнцыёзнай, гладкапрычэсанай і неакуратна апранутай асобе.

— Жэншчына! — пачулася ў мой адрас.

Пачуўшы ў гэтым небанальны журналісцкі матэрыял, я вырашыла працягваць „характэрную журналістам „Нівы" правакатарскую дзейнасць".

— Жэншчына, вы не хотела б поплывать по озерэве, — кінулі ўжо смялей у мой бок мужыкі.

Падышоўшы да іх, я рэфлексіўна заявіла, што пэўна ўсе хацелі б па гэтым „озерэве" сабе паплаваць, але я, на жаль, баюся вады.

— Ну то едзем з намі, пап'ём, пагуляем, ну і вы заработаете, а то там у вас люди з голаду умирают, — намаўлялі мяне малойчыкі.

— Так, то колькі мне заплаціце? — пытаюся быццам бы сур'ёзна.

— По сто тысяч, дамо! — заявілі згодна.

— Ну што вы, хлопцы, вы ж ад мяне напалову старэйшыя, — правакавала я.

Таргавалі, таргавалі, таргавалі, дайшлі „да точкі".

— То по 250 тысяч, — заявілі ўпарта.

— 255, — набівала я цану.

— Ну добра, — згадзіліся, думаючы пэўна, што я не „знаюся на польскіх грошах".

Аднак гэтая лічба 255 выклікала ў іх нейкае здзіўленне. Штосьці тут ім не пасавала.

— Вы адкуль будзете? — запытаў адзін з іх, найбольш збіты з панталыку.

— Ну, я з Гайнаўшчыны, вашая зямлячка, — кажу вясёленькая.

І ў гэтай хвіліне звалілася на іх дзікая збянтэжанасць. Мужыкі то чырванелі, то зелянелі, то бялелі. Пачулася таксама неабходнае „О..... мать!" Хлопцы абселі поўнасцю. На іх абліччы выпаўзлі зноў стагоддзі прыгнёту. Гэтыя людзі не выглядалі на вяскоўцаў. Гэта найхутчэй былі прыезджыя жыхары — рабочыя керамічнага завода, учарашнія вяскоўцы. Каб неяк залагодзіць шакіруючую сцэнку, пачалі мае нядаўнія паклоннікі накіроўваць размову ў іншы бок. Калі пачулі пра мэту майго падарожжа, пачалася размова аб „літаратуры".

— А што то за паэты ў нас, такія як то, ну, Яновіч, Барскі ці Гайдук. Хто іх ведае? У мяне паэт то Толстой, Пушкін, Міцкевіч. О! Гэта ў мяне паэты, — пачаў адзін з іх.

— А што вы з паэзіі Талстога чыталі, — пытаюся я правакацыйна.

— Тое-сёе чыталася, — адказаў дыпламатычна дзядзька з вусікамі.

Таксама пасыпаліся папрокі ў адрас „Нівы":

— А што гэта за часопіс, а што ён сабой прадстаўляе, а што там чытаць, калісь то пасмяяцца хаця было можна, а цяпер што? — расшумеліся нацыянальныя нігілісты.

Думаю, што і сёння смяяцца нікому не хочацца. Аднак, цікава было б пачытаць тое жонкам „нашых герояў" і даведацца, што іх мужы робяць „пасля цяжкага дня працы".

ГАННА КАНДРАЦЮК

# СМЕРЦІ НЯМА І ЖЫЦЦЯ НЯМА

*Працяг са стар. 1*

— То ці цяпер нельга напісаць? Да нараўчанскага войта ці ў Варшаву? Быў бы крок да цягніка? — здзіўляецца Алесь.

— А чаму тады ў Варшаву не пісалі? — злуецца Пеця, аперты на дзяржальні рыдлёўкі; яму ў той час было толькі пару гадоў. — Дзе вы тады былі? Дзе была ваша ініцыятыва?! Не думалі пра сваіх дзяцей?!

— Не было каму, — ціха кажа бацька.

— Ну, дзе вы былі?!

— Ну, бачыш, тутака, — кажа Алесь, — адзін мог задбаць пра вясковыя справы, як бы жыў, то дзядзька Максім Карпюк.

— Слухай, ён жа жыў у Нараўцы, — пярэчыць дзядзька Рыгор.

Пятро разглядаецца па панадворку, паказвае на сухую, крывую, пакручаную пахілую яблыню.

— Вось гэту яблыньку трэба зрэзаць. Але не буду я яе рэзаць, у мяне з ёю столькі ўспамінаў з дзяцінства... Тата, колькі ёй год будзе?

— У, то яшчэ з давайны, царская яблынька. А во і гэтая таксама. У мінулым годзе дала яшчэ горстку пладоў, але ў гэтым ужо хіба не зацвіце.

— Эй, зрэзаць яе трэба, пасадзіць што, хоць бы і ядловец, — радзіць Алесь.

— Пладовае трэба, — кажа Пятро.

— Эх, усё зрабіць можна, — зноў уздыхае дзядзька, — але не **робіцца**.

Дзяўчынкі круцяцца між намі, забаўляюцца з сабачкам.

— А ці тут ёсць дзеці, што ходзяць у школу? — пытаюся Ілёны.

— Ярак Савіцкі ходзіць у Ляўкова, а вось Міхасёва Юстына яшчэ пойдзе. Гэта ўсё...

— Ат, пажаніць трэба вашых кавалераў, то і дзеці будуць, — смяецца Алесь.

— Ты і сам пра гэта падумай, — ляпае яго па плячуку Пятро. — Прыехаў бы ў вёску, рабілі б мы справу. І палёў тут, і лугоў, колькі хочаш — бяры, штосьці можам выдумаць. Экалагічнае *рольніцтва, курча*, толькі гною ўкінуці, браце, і экспарт!.. На свеце такога чыстага, здаровага варыва не знойдзеш, як тут можна вырасціць! Колькі гадоў тут штучных „навозаў" не ўжываюць!..

— Але, „экалагічнае" можна зрабіць! — смяецца Алесь. — Тут такіх працаўнікоў знойдзеш, што табе за пляшку гной вывезуць і параскідаюць. Сваё згніе, але за паўлітра чужое зробяць. Кавалерка!

— Але ж дзяўчат няма ў ваколіцы, нават ва ўсёй гміне, — заўважае дзядзька Рыгор.

— Я думаю... што будзе цяпер іх больш па вёсках, — махае шуфлем узмакрэлы Пятро. — Бо, бач, няма нідзе работы, хто ж будзе за мільён рабіць у такім Беластоку, і столькі ж плаціць за пакой? Будуць, значыцца, дзяўчаты кар'еру рабіць у вёсцы.

— О, Пеця, ты ў сваім ставе рыбу маеш? — глядзіць Алесь на зарослы лазой і маладой альшынай бераг.

— Прырода мне яго знішчыла. З ёю не навалюеш! Бабры. Прыйшлі рэчкаю, Яблынёўкаю, парабілі каналы. Проста — інвазія!

— Ты што — наракаеш? — здзіўляецца Алесь. — Пачысціў б табе ўсё над ставам...

— Але, пачысціў. Меў я нарыхтаваныя дровы, то іх паелі. Не хапіла ім вярбы і лозаў, пачалі альшыну валіць...

— Ты што, карчоў ім шкадуеш?

— Якія карчы, калі іх можна рубаць?! Я іх не ганяў, паз'ядалі ўсё, што ім смакавала, і пайшлі далей шукаць месца, пэўна, на Гнілецкае возера. Такія суседзі за плотам! — спаць прыходзілі пад клуню. У канал уляцеў мой баран, ледзь яго выцягнулі. Я ім не бараніў, але самі сабе пайшлі. Няма людзей, то гаспадарыць жывёла. Качар прыляцеў, выеў усю рыбу з майго става. Капаў я быў яго капачкаю з надлясніцтва, то так загразла, што ледзь „ркт" яе выцягнулі. Прырода мае сваю сілу, чалавек моцны толькі тэхнікай. Над Амазонкай чалавек валіць усё бульдозерам, нішчыць, а я ёсць чалавек з лапатай... У такой Бярначчыне нават крамы няма (прыватны самаход развозіць спажывецкія тавары). Здалі бацькі зямлю, але зноў узялі ў арэнду пяць гектараў. Ну вось так і ваюем...

Узяўся холад, зябкі вецер забег пад маю куртку. Іду пагрэцца ў хату да цёткі Шуркі, Пецінай маці. Сядзіць яна на зэдліку на кухні, размаўляе з суседкай Марысяй.

— Вось так жывем сабе. Але хутка прыйдзецца адысці, бо так... кепска мне... дух займае. 80 гадоў. *Ужэ, ужэ* пара ўміраць, але ж не хочацца яшчэ... Найгорш, што нікуды не выйдзеш, ногі адняло. І так сяджу. Без работы, а есці хочацца...

— О, цётко, смерць далёка, калі ў чалавека апетыт ёсць! — пацяшаю яе.

— Эх, мне так ужо ўсю зіму кепска. Раней хоць крыху хадзіла. Мужу 84 гады. Захварэлі яму ногі, забалеў палец, то аднялі яму абедзьве. І так ён на вазку ўжо 11 год...

— Добра, што Пеця прыедзе...

— Але, прыедзе, то і паедзе, а мне ж штодзень трэба есці зварыць, прыбраць... бачыш, якая хата чорная?.. Сягоньку дыміць, я ж яе абмыю, думаю, замачыла латку ў ваду — не, не дала сабе рады. Не маю сілы ў руках. Смерці няма, і жыцця няма. На дварэ яшчэ халодна, узяла я крэсла на ганак, але не мела сілы яго прынесці назад...

— Пацяплее, выйдзеце на сонейка, паправіцеся...

— Папраўлюся... Нічога. Каб то быў хоць адзін дух у хаце. А то той без ног, а тая без рук. Добра хоць, што ён прывязе дроў на сваёй калясцы, вада ў хаце ёсць на помпу, то жывем. Унучкі з Пецем памогуць крыху. Во, бач, Манька, у Ахрымах памёр Пецін аднагодак, Міша Жэнін, ведаеш? А ў нас ужо шэсць чалавек у гэтым годзе, падумай! Бачыш, якая бяда! Каб хоць старыя памiралі! Ваньцы, бачыш, сорак сем... Ніхто не верыў, толькі што на ровары ехаў...

— Каму, Ваньцы? — здзіўляецца Ілёна, якая якраз увайшла ў хату. — Яму ж шэсцьдзесят шэсць!

Яна, хоць гайнаўская, ведае людзей у дзедавай з бабкай вёсцы. У сваёй, радзімай.

МІРА ЛУКША




## „ПРОСТА — БЕЛАРУС: КАТОЛІК ЦІ ПАЛЯК?"

Хай ніхто не ўспрыме гэтых слоў як спробу апраўдання, але спадару Мікалаю Семаковічу належыцца ад мяне дадатковае вытлумачэнне. Ласкава звярнуўшы ўвагу на мой кароткі артыкул, які напісаны быў, каб паказаць, якой небяспечнай з'явай з'ўляецца апалячанне карэнных беларусаў, толькі таму, што яны — каталікі, сп. Семаковіч узяў на разгляд і як прадмет палемікі адзін сказ: „што гэтак як Каталіцкі касцёл апалячвае беларусаў, так і Праваслаўная царква русіфікуе іх". Ён піша: „Аднак нельга згадзіцца са сцвярджэннем аўтара К.Б., які ў канцы свайго артыкула піша, што Праваслаўе русіфікуе беларускі народ. Думаю, што гэтае сцвярджэнне было выказана аўтарам надта неразважна".

Шаноўны спадар Семаковіч! Неразважнасць тут ні пры чым. Гэтае сцвярджэнне перш за ўсё праўдзівае. Шмат людзей хварэе на нейкую дзіўную салідарнасць, згодна якой супраць сваіх абсалютна нельга сказаць нічога крытычнага. За адзін аб'ектыўны сказ аб „нашых" сербах, адзін „стопрацэнтны" праваслаўны са з'едлівай радасцю павёз „Ніву" з маім артыкулам аж у Амерыку, каб паказаць усім тамтэйшым праваслаўным беларусам маё блюзнерства. Няўжо так цяжка зразумець, што калі Ваш або мой родны брат зробіць нейкае злачынства, мы не можам запярэчыць факту, толькі з болем і сумам прызнаць яго. Як праваслаўныя мы баронім праваслаўных, і гэта натуральнае імкненне, але з другога боку — гэта пачуцці, а не факты. Калі ўвогуле можна каго-небудзь крытыкаваць, дык якраз *сябе і сваіх*, таму што і мы не маем манаполіі на бязгрэшнасць. Не дэкларацыі, але дзеянні паказваюць нашае сапраўднае стаўленне. Прыгадайма фільм „Скрыпач на даху", у якім муж пытаецца ў жонкі, ці сапраўды яна кахае яго, а тая адказвае: „Ці ж не бачыш, як дбаю пра цябе і дом, як гатую, прыбіраю і выхоўваю нашых дзяцей, а ты яшчэ пытаеш, ці кахаю цябе?"

Шаноўны спадар Семаковіч! Адмоўная роля прарасейскай Праваслаўнай царквы ў нацыянальным, не рэлігійным сэнсе, не толькі можа быць параўноўваная з адмоўнай паланізатарскай роляй каталіцкіх „місіянераў" у Беларусі, але з прычыны маштабу яна нават большая. Царква мае *абавязак* карыстацца і пашыраць мову народа, якому служыць. Дзеля гэтага Кірыла і Мяфодзій адразу пераклалі літургічныя кнігі (хутчэй за Біблейскую камісію ў Менску) на славянскую мову. Расейская мова, накінутая беларускаму народу, і Царква мае ў гэтым свой гістарычны і сучасны ўдзел. Іерархія магла б адным „мгновением" высокапраасвяшчэннейшай рукі змяніць гэты стан, але яна не хоча дакладна гэтак, як не хочуць гэтага зрабіць янычарскія, прадажныя душы кіруючых асоб. У гэтым сэнсе Царква *працягвае* сваю адмоўную, русіфікатарскую ролю. Я паўтараю, не ў рэлігійным, але ў нацыянальным сэнсе. Мабыць, не горш за Вас я ведаю гістарычныя заслугі Праваслаўя для беларускага народа, яго культуратворчую, асветніцкую і рэлігійную ролю. Гэтай ролі я не *аспрэчваю*, але *ганаруся* і пры любой нагодзе падкрэсліваю яе. Праваслаўе з'яўляецца *карэнным* першым і натуральным веравызнаннем беларусаў. Усе іншыя, якія так ці інакш маюць таксама права на існаванне і з'ўляюцца проста фактам, былі прынесены звонку, пераважна з нячыстых, пазарэлігійных мэтаў. Тое, што дзеля беларусізацыі рэлігійнага жыцця робіць іерархія Праваслаўнай царквы ў Беларусі — гэта кпіны. Нейкі каляндарчык, гадзіна беларускай мовы ў Жыровічах, нейкая адна багаслужба на беларускай мове, марудны пераклад Евангелля Камісіяй, якая спрачаецца наконт слова „блага", трох беларускамоўных святароў на некалькі соцень усіх, гэта і ёсць сапраўдны, а не *жаданы* стан. Усё, што ў галіне беларусізацыі рэлігійнага жыцця робіцца ў Беларусі, я прагна лаўлю таксама і з прычыны маёй працы, аднак факты і лічбы адназначна гавораць, што нават калі і нешта ў гэтай галіне робіцца, дык толькі „па odczepnego", дакладна гэтак як з „беларускімі" багаслужбамі ў царкве Св. Марыі Магдаліны ў Беластоку.

Усё гэтае пішу з сумам і рад бы ніколі не пісаць, але як было сказана ўжо ў старажытнасці: „Платон мне дарагі, але праўда даражэйшая".

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# СМЯРОТНЫ ПАХОД

Напісаць гэтыя радкі падштурхнулі мяне артыкулы Алеся Барскага пра паэта Уладзіміра Клішэвіча („Ніва" н-р 15 і пазнейшыя). Асабліва ўзрушыла мяне інфармацыя аб тым, што У. Клішэвіч быў удзельнікам гэтак званага маршу смерці вязняў менскай турмы ў Чэрвень (Ігумен). Адлегласць 62 км калоны зняволеных пераадольвалі 26 і 27 чэрвеня 1941 г. У гэтым смяротным паходзе ўдзельнічалі блізкія мне людзі: мой хросны бацька Венядыкт Кацапун і аднавяскоўцы — Янка Сайкоўскі і Мікалай Дрозд.

Венядыкт Кацапун паходзіў з Холма і па нацыянальнасці быў украінцам. Да 1939 г. працаваў ён кіраўніком Пачатковай школы ў вёсцы Слабодка каля Стоўбцаў. Быў ён арыштаваны ў 1940 г., а жонку з дачкою вывезлі ў Казахстан. Янка Сайкоўскі — жыхар вёскі Кучкуны Стаўбцоўскага павета — быў удзельнікам Слуцкага паўстання. Меў невялічкую паўтарагектарную гаспадарку. Арыштаваны НКУС у 1940 або 1941 г. Другі аднавясковец, Дрозд Мікалай сын Аляксандра, быў арыштаваны ў 1941 г. за спекуляцыю: прадаваў на базары чатыры кавалкі мыла, купленага раней у салдат.

Паводле іхніх апавяданняў, раніцай 26 чэрвеня 1941 г. у Менску турэмныя службы сталі фармаваць калоны з 150—200 зняволеных і пад строгім канвоем весці іх на чугуначную станцыю з намерам пагрузіць вязняў у вагоны. Аднак ноччу і раніцай гэтага дня немцы бамбардзіравалі Менск і станцыю з самалётаў. На станцыі знаходзіліся ўжо зняволеныя прывезеныя з Баранавіч і іншых турмаў. У такіх умовах НКУС вырашыла гнаць турэмшчыкаў на ўсход, у напрамку Чэрвеня (Ігумена). Каля дзесятай гадзіны калоны зняволеных пакінулі межы Менска. Турэмшчыкі гэтага дня не снедалі і не быў выдадзены ім сухі правіянт, бо мелі яго атрымаць ужо ў цягніку. Ішлі галодныя і без вады, а ў той час стаяла вельмі цёплае надвор'е. Многія вязні не маглі перанесці цяжкага маршу, млелі ў дарозе. Тым, якія не маглі ісці далей, канваіры давалі „вады", г. зн. бралі абамлелага пад рукі, адводзілі ўбок, перагаворваючыся між сабою: „Ты, Ванька, дай ему водички, вишь какой ослаблён", і, пхнуўшы кінжалам у жывот або грудзі, пакідалі цела на ўзбочыне дарогі. Вельмі жорсткім у адносінах да зняволеных і спецыялістам па кінжалу паказаўся міліцыянер Скварчэўскі, які выводзіўся з сялянскай сям'і з вёскі Халаймаўшчына каля Стоўбцаў.

У палове дарогі між Менскам і Чэрвенем адной калоне быў дадзены загад бегчы ў невялічкі лясок у ста метрах ад шашы, каб схавацца ад нямецкіх самалётаў. Калі вязні пачалі бегчы ў напрамку лесу, канваіры адкрылі кулямётны агонь па іх. Параненых дабівалі потым штыкамі і кінжаламі, а ўцалелых далучылі да наступнай калоны. У такі спосаб загінуў мой сусед Мікалай Дрозд. Паранены, крычаў ён: „Таварышы, за што забіваеце нявінных людзей!" Дабілі яго штыком у грудзі.

Вечарам калоны зняволеных прыйшлі ў Чэрвень. Тысячы вязняў правялі ноч на турэмным панадворку, частку з іх заперлі ў турэмныя камеры па 50—60 чалавек. Апоўначы функцыянеры НКУС сталі вычытваць са спіскаў прозвішчы зняволеных, сярод іх і прозвішча майго хроснага бацькі Венядыкта Кацапуна. Паколькі вязні з розных турмаў (Менск, Баранавічы, Койданава) падчас маршу перамяшаліся, у камерах апынуліся незнаёмыя сабе людзі. Афіцэры НКУС некалькі разоў чыталі прозвішчы, але В. Кацапун не адгукнуўся, змаўчаў. Тых, якія адклікнуліся, вывезлі ў невядомым напрамку.

27 чэрвеня 1941 г. а пятай гадзіне раніцы зняволеных асвабадзілі нямецкія камандосы. Адчынілі яны турэмную браму і загадалі ламаць вокны і дзверы турэмных камер.

**Ю. ПРАКАПОВІЧ**

P. S. Венядыкт Кацапун да 1952 г. жыў у горадзе Ожыш каля Ольштына. Ягоныя жонка і сын жывуць у Варшаве. А Янка Сайкоўскі да 1957 г. жыў у г. Жэпін Зялёнагорскага ваяводства. Там жыве ягоная дачка Ядвіга Жывіцкая.

# ПАСЛОЎ СПРАВА НЕ ЦІКАВІЛА

*Працяг са стар. 1*

*— Скажыце, калі ласка, якія былі асноўныя пастулаты, што абмяркоўваліся падчас сустрэчы?*

— Перш за ўсё, дапамога асветных улад у падрыхтоўцы адпаведных кадраў для навучання ў школах сярод нацыянальных меншасцяў, забеспячэнне гэтых школ падручнікамі і дыдактычнымі дапаможнікамі, зацвярджэнне праграм навучання па мове і гісторыі кожнай нацыянальнасці ды геаграфіі суседніх краін. Пастулавалі мы, каб у агульнапольскіх праграмах навучання паявіліся інфармацыі пра грамадзян Польшчы іншых нацыянальнасцяў. Ну і пастулат, які я лічу вельмі важным — пакінуць школьніцтва нацыянальных меншасцяў у распараджэнні Міністэрства нацыянальнай адукацыі. У многіх выпадках пераход школ у распараджэнне самаўрадаў будзе раўняцца з ліквідацыяй любой адметнасці. Найбольш яркія прыклады такой сітуацыі прыводзілі славакі, але праблема датычыць усіх, і немцаў, і украінцаў, і нас.

*— А калі ўжо ідзе канкрэтна пра беларусаў?*

— Прызнаць нашу камісію (Камісію па справах рэформы беларускага школьніцтва — М.В.) афіцыйнай і надзяліць яе адпаведнымі кампетэнцыямі. На сённяшні дзень я, як старшыня — ніхто. Я не магу нават зацікаўленых настаўнікаў на нараду склікаць, бо дырэктар возьме і іх не пусціць. А што я магу запрапанаваць патэнцыяльным укладальнікам праграм ці аўтарам падручнікаў? Абсалютна нічога. Выступалі мы таксама, каб улічыць тэрміны праваслаўных свят і там, дзе большасць вучняў — праваслаўныя, каб былі гэта законна вольныя дні. Запрапанавалі мы таксама папраўкі ў распараджэнне міністра нацыянальнай адукацыі аб падтрымцы нацыянальнай, этнічнай і моўнай тоеснасці вучняў з меншасных асяроддзяў. Мы лічым, што там дзе меншасць з'ўляецца большасцю, навучанне мовы гэтай нацыянальнасці павінна быць абавязковым. На нашу думку, хапіла б вуснай дэкларацыі бацькоў, а не абавязкова пісьмовай, каб дзіця хадзіла на ўрокі роднай мовы. На гэта пасол Курань усміхнуўся: „Знаю я вас, беларусаў, знаю".

У дыскусіі я ўвесь час падкрэсліваў, што мы — грамадзяне гэтай краіны і словы дырэктара Савіцкага, каб мы шукалі падтрымкі дзесьці за мяжой — не на месцы. Ні ён, ані ніхто іншы так гаварыць не мае права.

*— Ці можна, усё-такі, чакаць нейкіх рэзультатаў ад гэтай сустрэчы?*

— Сеймавая камісія падрыхтуе свае прапановы міністэрству нацыянальнай адукацыі. Потым, калі Сейм будзе галасаваць над новай праграмай навучання, павінна яна пільнаваць, ці на канчатковы кшталт праграмы мелі таксама ўплыў гэтыя прапановы. Паслы з гэтай камісіі будуць мець уплыў на вынік галасавання, але ці вырашальны?

Пры нагодзе гэтай сустрэчы ўсвядоміў я сабе ў цэлай наяўнасці факт, што між рознымі нацыянальнасцямі Польшчы няма ніякага супрацоўніцтва. Гэта вельмі адмоўна ўплывае на выніку ўсіх старанняў нацыянальных меншасцяў перад уладамі Польшчы дабіцца прызнання, пашаны, а таксама падтрымкі ў захаванні сваёй тоеснасці.

*— Давайце, на заканчэнне размовы, вернемся на свой панадворак. Чаго новага ў школе могуць чакаць нашы дзеці?*

— Амаль гатовая ўжо новая праграма па навучанню беларускай мовы ў пачатковых школах. З друку павінен выйсці падручнік па беларускай мове для сёмага і восьмага класаў. Канчатковай апрацоўкі чакае спеўнік Сяргея Лукашчука і Сцяпана Копы, а рэцэнзіі Міністэрства нацыянальнай адукацыі — дапаўняльныя праграмы па гісторыі Беларусі для пачатковай, прафесійнай і сярэдняй школ аўтарства Яўгена Вапы. У „Ніве" друкуецца такая праграма па геаграфіі Беларусі Юркі Баены, карыстацца якою ўжо могуць настаўнікі, да чаго я іх горача заахвочваю. „Букваром", пакуль што, будзем карыстацца менскім, хаця няблага было б мець свой. Цяпер патрэбныя людзі, якія б маглі напісаць падручнікі па беларускай мове для трэцяга, чацвёртага, пятага і шостага класаў. Буду вітаць тут кожную ініцыятыву.

*— Дзякуй за размову.*

**Гутарыў МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

❐

 

## Яшчэ раз аб „Босніі, якой ужо няма”

У 15 н-ры „Нівы” ў адгалосцы „На артыкул „Боснія, якой ужо няма” Алесь Чобат піша: „Мусульмане на Балканах з'явіліся не толькі ў выніку панавання туркаў”. Напэўна, калі б не панаванне туркаў на Балканах, то мусульман там не было б, маглі б быць толькі нейкія эмігранты, а ў мусульманства не перайшлі б нават вернікі т.зв. „баснійскай царквы”. Баснійская царква — гэта царква багамілаў. Яна паўстала ў Балгарыі ў X ст. Арганізаваў яе святар Багаміл і ад яго ўзяла яна сваю назву. Багамілы арганізавалі паўстанне ў Балгарыі супраць феадалаў і Візантыі. Яны адкінулі хрысціянскія абрады, шлюбы, выступалі супраць багацця царквы і ўвогуле супраць багацця і ўласнасці і стварылі сваю царкву, свае абрады пад уплывам персідскай секты маніхеяў. У 1211 г. яны былі асуджаны на Тырноўскім саборы, сталі ерэтычнай сектай, якую Царква і ўлады праследавалі, што давяло да знішчэння галоўнай масы іх твораў і дакументаў. І толькі з апісанняў іх праціўнікаў даведваемся аб іх поглядах на Царкву, на іх адносіны да феадальнага ладу. З Балгарыі яны перайшлі ў Сербію, Боснію і нават далей на захад. На захадзе паявіліся секты катараў, альбігойцаў і вальдэнсаў (у Італіі і Францыі), якія былі знішчаны крыжовымі паходамі, арганізаванымі рымскімі папамі. У Босніі нават першыя баны былі багамілами, напрыклад, Кулін (1180—1204) ці Мацвей Нінаслаў (1232—1250). Пад маркай барацьбы з багамілами рымскія папы разам з Венгрыяй вялі барацьбу супраць Босніі. Але венгерскае каталіцкае войска было разбітае ў 1363 г. Сцяпанам Тврдка, які стварыў магутную дзяржаву на Балканах. Ён аб'яднаў землі Босніі і Герцагавіны і стаў у 1377 г. „каралём”. Але пасля яго смерці ў выніку феадальных разладаў дзяржава распалася. Магчыма, што багамілы сталі мусульманамі, калі туркі захапілі ў 1482 г. Герцагавіну, а раней у 1463 г. Боснію, бо з таго часу аб іх след прапаў. Але яны тады ў Босніі не адыгрывалі вялікай ролі, бо паходзілі з бедных слаёў грамадства. Пад жорсткім праследаваннем хрысціян турэцкімі захопнікамі, многія баснійскія і герцагавінскія феадалы (і праваслаўныя, і католікі) прынялі іслам, каб не страціць сваіх зямель і ўлады. У Босніі туркі стварылі баснійскі пашалык. Жыццё ўсяго насельніцтва стала вельмі цяжкім, бо да сацыяльнага прыгнёту дайшлі нацыянальны і рэлігійны. У 1690 г. 80 тысяч сербаў з патрыярхам Арсеніем перасяліліся ў паўднёва-ўсходнюю частку Аўстрыі. Аўстрыя ахвотна засяляла сербамі свае гранічныя з Турцыяй землі, каб яны баранілі іх ад нападаў. Таму так многа сербаў жыве ў Босніі, а нават у харвацкай Славоніі. У Босніі жыве амаль столькі сербаў, як і мусульман, а сярод мусульман знаходзіцца многа туркаў, якія асталіся пасля вызвалення Босніі. Мусульмане жывуць пераважна ў гарадах. У Сараеве іх было больш за 50%. Калі б Ціта зрабіў рэферэндум і правёў граніцы між рэспублікамі згодна з воляй насельніцтва, то цяпер сербам не трэба было б ваяваць з харватамі і баснійцамі. А то ён пакінуў граніцы Сербіі такімі, якімі былі яны ў XIX ст., далучыўшы толькі да яе Ваяводзіну, дзе жыве большасць сербаў.

Напэўна, вайна ў Югаславіі не з'яўляецца толькі вынікам нямецкіх інтрыгаў, але калі б захад Еўропы пад націскам Германіі не згадзіўся на падзел Югаславіі і так хутка не прызнаў бы Харватыю, а тым больш Боснію самастойнымі дзяржавамі і не даў бы ім зброі, то не дайшло б да такой разні і знішчэння, якое адбываецца. То з Харватыі выйшла ідэя аб'яднання ўсіх славянскіх народаў (акрамя балгараў) у адну дзяржаву на Балканах. Прапагандаваў яе каталіцкі епіскап Йосіп Юрай Штросмайер у XIX ст. Калісь харваты, каб не карыстацца нямецкай і венгерскай мовамі ў судзе і ў парламенце, а нават у знатных дамах, ужывалі лацінскую мову. Сербахарвацкая мова захавалася ў ніжэйшых слаях насельніцтва і Штросмайер намагаўся, каб яе ўжываў увесь народ. Для гэтага трэба было стварыць граматыку і арфаграфію харвацкай мовы. Штросмайер выдаў друкам кнігі, напісаныя глаголічным алфавітам і стварыў у Заграбе слаўны універсітэт і Акадэмію навук. Але рабіў ён гэта для Ватыкана, каб заахвоціць сербаў пераходзіць у каталіцызм.

У 1850 г. Штросмайер пісаў: „Праваслаўе, пратэстантызм і рэшта ерасей і схізм з'яўляюцца сапраўднай хлуснёй і не маюць права называць сябе праўдзівай Царквой Хрыста”. Ён арганізаваў паломніцтва ў Рым, каб падзякаваць рымскаму папу за яго згоду і імкненне да аб'яднання сербаў з іншымі славянскімі народамі, ды прапанаваў у Рыме ў 1880 г. занесці ў каталіцкі каляндар свята славянскіх апосталаў Кірылы і Мяфодзія. Папа рымскі станоўча аднёсся да гэтага і ў сваёй энцыкліцы „Grande munus” сцвердзіў, што Кірыла і Мяфодзій „пашыралі апостальскія веды ў славянскіх краінах па загаду і са згоды папы, якому заўсёды яны былі верныя”. Сербы ўспрынялі гэта як атаку на праваслаўе. Калі не ўдалося сербаў перацягнуць у каталіцызм, тады Ватыкан пачаў варожа адносіцца да іх і вельмі быў незадаволены з узнікнення Югаславіі. Не змяніў гэтай варожасці нават канкардат Сербіі з Ватыканам у 1914 г. І калі рэнегат Павеліч арганізаваў у 1929 годзе тэрарысцкую арганізацыю ўсташоўцаў у Італіі і Венгрыі, Ватыкан, Германія, Італія, Венгрыя яму дапамагалі. Пры дапамозе ўсташоўцаў пачалі бунтаваць харватаў, славенцаў, а нават баснійцаў супраць адзінства. У сакавіку 1941 г. Гітлер і Мусаліні стварылі харвацкую дзяржаву на чале з Павелічам, да якой уключылі Боснію і Герцагавіну. І ўжо 22 ліпеня 1941 г. міністр асветы і веравызнання гэтай дзяржавы М. Будак заявіў: „Не можа быць праваслаўных у гэтай дзяржаве, 1/3 з іх павінна выехаць, 1/3 — перайсці ў каталіцызм, а 1/3 — памерці”. Мусульмане памагалі ўсташоўцам, бо тады грабілі маёмасць забітых ці вывезеных сербаў. Многіх сербаў вывезлі ў канцэнтрацыйныя лагеры. Ціта хацеў зацерці памяць аб харвацкіх і баснійскіх забойствах сербаў, але ў народзе гэтая памяць не загінула. І таму сербы не маглі пагадзіцца з граніцамі, якія ўстанавіў Ціта. Асобы важакоў Туджмана і Ізатбегавіча павялічвалі іх боязь. Ізатбегавіч за прыклад дзяржавы ставіў Пакістан. А амаль 60% Босніі гэта хрысціяне. Былы генерал арміі Ціта, а цяпер прэзідэнт Харватыі Ф. Туджман, ужо як гісторык апраўдваў усташоўскія забойствы сербаў. Ужо ў 1990 г. абмежавалі правы сербаў у канстытуцыі ад 22.12.1990 г. Пачалі тады праводзіць этнічную чыстку сербаў, нішчылі праваслаўныя цэрквы. Лорд Карынгтан напісаў: „Калі ўдумацца ў прычыны вайны, можна пацвердзіць, што гэта харваты падпалілі кнот, абвяшчаючы канстытуцыю, якая не бярэ пад увагу асаблівай пазіцыі сербаў у гэтай рэспубліцы”. Памылкай заходняй Еўропы, а тым больш Германіі, было ўвядзенне эмбарга на інфармацыі ад сербаў. Аўтары рапарта Сусветнай рады цэркваў „The tragedy of Bosnia” пішуць: „З праўдзівым сорамам мусім пасведчыць, што на працягу двух тыдняў пасля адкрыцця масавых магіл забітых сербаў у Басанскім Бродзе не з'явілася туды аніводная заходняя тэлевізійная брыгада, аніводзін заходні журналіст”. А інфармацыі мусульман і харватаў ідуць у эфір бесперашкодна і змяшчаюцца ў міжнароднай прэсе на першых старонках. Многія з гэтых інфармацый з'яўляюцца няпраўдзівымі. Далей у „The Tragedy of Bosnia” пішацца: „Многія выяўленыя сакрэты з тайных рапартаў паказваюць, што многа лютасцей, прыпісаных сербам зрабілі ў Сараеве мусульмане, каб вызваць сімпатыю грамадскай думкі і паскорыць узброеную інтэрвенцыю НАТО”. Пад уплывам усташоўскай прапаганды, а таксама прапаганды нямецкай разведкі, раней у Югаславіі славенцы і харваты выступалі супраць датацый бедным рэспублікам, хаця б Чарнагорыі, Македоніі ці Босніі. Калі эканамічная сітуацыя пасля смерці Ціта пагоршылася, то гэта стала прычынай цэнтрабежных тэндэнцый між рэспублікамі, якія выкарыстоўвала нямецкая разведка пры дапамозе былой камуністычна-нацыяналістычнай наменклатуры. Лёгка запаліць нянавісць, асабліва сярод моладзі, і знайсці ворага, калі вакол кепская матэрыяльная сітуацыя. А простыя людзі вінаваты, што паслухаліся рэнегатаў і за гэта цяпер пакутуюць. Я не гавару, што ўсе сербы — анёлы. Вайна выгадавала і сярод іх забойцаў, гвалтаўнікоў, але маральную адказнасць нясуць тыя, што да гэтага ўсяго давялі.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

## ПРАВАСЛАЎНЫЯ І БЕЛАРУСЫ Ў СТАТЫСТЫЦЫ

У сакавіку бягучага года ў кнігарнях з'явіўся даведнік „Rocznik statystyczny” за 1993 г. выдадзены Галоўнай статыстычнай управай (GUS). З яго можна даведацца, што Праваслаўная царква на тэрыторыі Польшчы існуе з XIV ст. Юрыдычнае прызнанне праваслаўных у краіне наступіла аднак позна, бо ў 1633 г. Уладзіславам IV. У час падзелаў польскай тэрыторыі Праваслаўная царква апынулася ў кананічным саюзе з Рускай праваслаўнай царквой. Гэты саюз трываў аж да 1922 года, калі Сабор епіскапаў аб'явіў аўтакефалію.

У 1922—1939 гадах было ў Польшчы пяць праваслаўных епархій: Варшаўска-Холмская, Гродзенская, Палеская, Віленская і Валынская. Перапіс ад 1921 года паказаў, што ў Польшчы было 2,8 млн. людзей праваслаўнага веравызнання (гэта 10,8% агульнага ліку насельніцтва), а ў 1931 г. — 3,8 мл. (11,8%).

Цяпер на тэрыторыі Польшчы існуе 6 епархій: Варшаўска-Бельская (архіепіскапская епархія), Беластоцка-Гданьская, Люблінска-Холмская, Лодзінска-Пазнаньская, Пярэмышльска-Навасандэцкая і Шчэцінска-Вроцлаўская. У 1992 г. у Польшчы было 573.160 чалавек праваслаўнага веравызнання (у тым ліку 2560 стараввераў). Лік прыходаў і іх філій — 250 (242 — 1985 г.). Мелі яны супольна 410 цэркваў і каплічак (313 — 1985 г.), у якіх было 259 праваслаўных свяшчэннікаў (234 — 1985 г.). Усходні касцёл стараввераў меў 4 маленны ў 4 прыходах і 3 духоўныя асобы.

Статыстычны даведнік змяшчае інфармацыю таксама пра 59 іншых канфесій у Польшчы.

У Польшчы ў 1992 г. існавалі наступныя беларускія арганізацыі: Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа” — 30 членаў, БГКТ — 4000 членаў, Беларускае аб'яднанне студэнтаў — 200 членаў, Саюз беларускай моладзі — 40 членаў, Аб'яднанне журналістаў — 20 членаў. Свае аб'яднанні ў Польшчы маюць таксама французы, чэхі, славакі, літоўцы, русіны, немцы, армяне, украінцы, яўрэі, балгары, грэкі, в'етнамцы. Найбольш сваіх арганізацый, бо аж 24, стварылі немцы, з 409.805 членамі. На жаль, няма дэмаграфічных даных пра самыя нацыянальныя меншасці, якія жывуць у Польшчы.

**СЛАВАМІР КУЛІК**

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

### ДЗЕНЬ УЧАРАШНІ

Выгнаны з учарашняга дня
беспаваротна і канчаткова
стаю пад мурам ночы
цераз месячнае акно
нелегальна паўзе ўспамін
а зорка падае словам
што прагрымела даўно даўно
і дым валочыць
спаленых хвілін

усё закрываецца ў вяртаннях
сённяшняй радасці
заўтра быць атрутай
ваюю з ветрам
я перакаці-поле
шукаю лета калі ў варотах
стаіць восень і па шуфлядах
замест вершаў сееца смутак
і ў вочы коле

выгнаны з апошняга ўспаміну
беспаваротна і канчаткова
гіну
каб жыць нанова
абы-як
абы-дзе
абы з кім
з чужым словам

### ЛЕС ВЯСНОЮ

Добра зайсці ў лес вясною,
Ціхай, цёплаю парою
І паслухаць яго зыкі,
Шумнай песні і музыкі.

Мае лес чым пахваліцца,
Ёсць у ім чым падзівіцца,
Хоць бяднейша фаўна, флора,
Ратавала людзей гора.

А які ў ім цуд, ігрышча,
Тут іначай вецер свішча,
Кожны жыхар мае права
Даць канцэрт сабе на брава.

Дзяцел, музыкант заўзяты,
Барабаніць як наняты,
Ён заснуць не дасць нікому,
Ні сляпому, ні глухому.

Прабудзіліся стварэнні,
Ўсе лясныя пакаленні,
Нават тыя, што у пушчы —
Непраходнай глухой гушчы.

Скача, бегае вавёрка,
З яе спрытная танцорка,
Хвастом сябе украшае,
Быццам веерам махае.

Жаваранак дзесь высока
Трэлі свае шле здалёка
На палі, лугі, даліны
І лясныя верхавіны.

А ў гушчарах дзікі звер,
Што мае ўроджаны манер,
Свайго логава пільнуе
І дзяцей у ім гадуе.

Птушкі ў лесе са звярамі
Чуюцца гаспадарамі,
Жыццём сваім весяляцца,
Толькі нас, людзей, баяцца.

*Лондан*, **Ю. В-СКІ**



 

# Зорка

## старонка для дзяцей


## ЯНОТ-ПАЛАСКУН

На беларускім Палессі, у заліўных дубровах, рачных поймах з мноствам азёр, старых рэчышчах, парослых водна-балотнай расліннасцю, жывуць яноты-паласкуны — невялікія зняркі даўжынёю цела 50—60, хваста 25—28 сантыметраў. Галоўка ў янота шырокая, з завостранай мордачкай, брудна-белая. Вушы прыкметна выступаюць з поўсці. Ад носа па лбе цягнецца цёмная паласа, якая зліваецца з цёмнымі плямамі на шчоках. Густым, доўгім мяккім футрам звярок падобны на маленькае медзведзяня, але з доўгім пушыстым хвастом.

Радзіма гэтага звярка — Паўночная Амерыка, адкуль у 1936 годзе для акліматызацыі яго завезлі на Далёкі Усход, у Сярэднюю Азію і Закаўказзе. У Беларусь упершыню ў 1954 годзе 52 яноты прывезлі з Азербайджана. Звяркоў выпусцілі ў пойме ракі Прыпяць на Палессі, у Петрыкаўскім раёне Гомельскай вобласці. Праз чатыры гады было завезена яшчэ 78 звяркоў. Іх выпусцілі ў Тураўскім раёне Гомельскай вобласці і ў Столінскім Брэсцкай. На дрэвах развесілі больш за сотню вялікіх дуплянак, і амаль усе яны ў хуткім часе былі заселены.

Янот-паласкун вядзе начны спосаб жыцця. Добра плавае і лазіць па дрэвах. Жыве ў дуплах круглы год. Корміцца дробнымі птушкамі і іх яйкамі, грызунамі, жабамі, ракамі, малюскамі, рыбай, насякомымі, жалудамі, ягадамі, сакавітай расліннасцю. У час яды янот палошча ў вадзе корм, за што і атрымаў сваю назву. Да восені ён тлусцее і залягае ў дуплах у спячку. У адным дупле зімуе ад 2 да 12 звяркоў. У адлігу пакідае дупло і ідзе карміцца. Гон у лютым—сакавіку. У красавіку—маі ў яго з'яўляецца ад двух да шасці дзіцянят. Янот-паласкун прыжыўся на Палессі.

А. КУРСКОЎ

## ЛАГАГРЫФ



1. вогнішча з галля, дроў або ламачча, 2. расліна, якой падземныя клубні з'яўляюцца асноўнай ядой беларусаў, 3. дзіця, якое не мае бацькоў, 4. жыхар Манголіі, 5. снежны „чалавек", 6. сталіца Англіі.

Вылучаныя літары складуць назву высокага старадаўняга магільнага насыпу.

Адказаў чакаем два тыдні.



*Раннія ветры вясення гэткім прыгожым зрабілі ўсё;*
*Быццам хусцінай вясельнаю вішанька цветам акрылася...*
*(Генадзь Бураўкін)*

**Фота Габора Ларынчы**

З гісторыі Беларусі

## ЛАГІШЫН

Некалі тут ніхто не жыў. Лясы неабсяжныя былі, рэкі паўнаводныя разліваліся, а ў іх — мноства звяроў самых розных, рыбы, дзічыны. Некранутым куток прыроды. Людзі жыць не сяліліся толькі таму, што цяжка дабрацца было сюды. Хіба зімою, калі ўсё навокал замятала снегам і замярзала. Праўда, пад снегам хаваліся шматлікія „чортавы вокны", якія ніколі не замярзалі і былі непераадольнымі пасткамі для людзей. Колькі іх загінула ў балотах, нават цяжка сказаць, бо калі трапляў хто ў вір ці ў багну, то яго і выцягваць баяліся, гаварылі, што лёс у чалавека такі, што багі гэтак вырашылі...

Аднаго разу купец ехаў са сваім сынам і людзьмі санным шляхам да Пінска. Везлі прадаваць прыгожыя тавары, купленыя ў заморскіх краінах. Звалі купца таго Логіш. Мужны і практычны гэта быў чалавек, і сына свайго таксама бясстрашным і адчайным гадаваў. Заначавалі яны ў лесе, бо далёка яшчэ было да горада. Ноччу Логішу сон прысніўся. Бачыў ён велічную жанчыну перад сабою, якая папярэджвала яго, каб назаўтра не ехаў праз балота, пачакаў, пакуль мароз возьмецца. Але не паверыў дрэннаму прадвяшчанню купец — паехаў. Выехаў ён са сваімі людзьмі на самае небяспечнае месца, і тут, нібы пад руку, завылі ваўкі. Спалохаліся коні, пачалі кідацца, ды спрактыкаваныя таварышы былі ў Логіша, утрымалі коней. А вось сынавы сані панёс конь. Малады купец мог саскочыць, ды вельмі ж тавару шкадаваў. Спадзяваўся, што спыніць сані. Але ўляцеў конь у „чортава акно" і нават заржаць не паспеў, пайшоў на дно. Разам з ім і Логішаў сын утапіўся. Вярнуўся купец са сваімі людзьмі назад, на высокі бераг, і заклаў там паселішча. Сталі жыць, чакаць вясны, каб зямлю засяваць. Калі яна надышла і навокал вада заплёскалася, паслаў Логіш даверанага чалавека прадаць што-небудзь у Пінску на базары, купіць самае неабходнае для гаспадаркі. Паплыў той у чоўне...

— Хто ты? Адкуль? — спыталіся ў яго людзі, калі ён расклаў свой тавар. Спачатку разгубіўся Логішаў пасланец, а потым мовіў:

— Логішынец... З Логішынава берага...

Вось адтуль і пайшлі лагішынцы і Лагішын.

АЛЯКСЕЙ НЕНАДАВЕЦ

*АЛЕГ ЛОЙКА*

## ВЯСЁЛЫ АГАРОД

Любяць агарод вясёлы
Гарады ўсе і ўсе сёлы.

Любяць мамы, любяць таты,
Школьнікі і дашкаляты.

Бо ён весела ўзыходзіць,
Перш красуе, потым родзіць.

Сонца, кветкі, птушкі, пчолы,
Любяць агарод вясёлы.

### БУРАК

Расчырвоніўся бурак,
Быццам сам не свой,
Бо расце ён, небарак,
Уніз галавой.

### ГАРБУЗ

Гарбузова галава
Большая, чым булава.
Пад шчакою — жоўты ліст,
Шыя, як вяроўка, —
Спіць, нібыта футбаліст
Пасля трэніроўкі.

### МОРКВА

У морквы —
Найвясельшы лёс:
Глядзіць з дня ў дзень,
Ці доўгі нос?..

### ГУРКІ

Між гуркоў-дружбакоў
Кожны — лежабока.
Колькі ж у гуркоў бакоў,
Палічыць нялёгка!..

### КРОП

Кроп з вясны пра лета марыць,
А прыжарыць суша, —
На зялёным круглым твары —
Рыжы рой вяснушак.

### ФАСОЛЯ

Я — сядунка-седуніца —
Між разоры сяджу ніца,
А стручкі, як завушніцы, —
Нельга мне не пакланіцца!..

Я — фасоля стручкавая,
Я — стручочкаў не хаваю, —
Каб вышэлі ўлетку дзеткі,
Вышай стану падпаветкі!..

### ЧАРНУШКА

Ганарылася чарнушка,
Што выдатна лечыць брушка,
І шаптала ўсім на вушка:
„Лекар я, а не чарнушка!.."

### ПАМІДОР

Памідор, як дзедка з торбай,
А ў той торбе — дзеткі горбай:
Не ўтрымаць, не ўстаяць, —
Кія ў рукі трэба браць.
Узяўшы кія кагадзе,
Стаіць дзедам на градзе.

### ГАРОХ

Пышны вус, пыхі ж — ні троху
У беларускага гароху.

### ЦЫБУЛЯ

Вясною ледзь падзьмула, —
За роўным радам рад
Зялёная цыбуля
Выходзіць на парад.

Глядзіш, і сэрцу люба —
Аж духу не стае:
Парад зялёначубы
Зялёны марш пяе!..

### ШЧАВЕЙ І САЛАТА

З-па-за саду, з-па-за хаты,
Летні ветрык, ціха вей!..
Да зялёнае Салаты
Ўздумаў сватацца Шчавей.

Ды ніяк не згодзіць свата:
Ой, сугней Шчавей, сугней!..
Незамужняя Салата,
Нежанаты і Шчавей!..

*(працяг у наступным нумары)*

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

**25**

*(працяг з папярэдняга нумара)*

## Псеўдаслоўнік

„Бесталковы" слоўнік — гэта гульня слоў, заснаваная на падабенстве, сугуччы слоў і іх частак. Каб складаць псеўдаслоўнік, патрэбна не толькі пачуццё гумару, але і тонкае, дакладнае адчуванне слова. Так, кожнаму вядома і без слоўніка, што *сааўтар* — гэта другі аўтар, *выдатнік* — лепшы вучань; зразумелае і слова *бачу*. У псеўдаслоўніку ж *сабачнік* — той, хто нешта бачыў разам з табою (а не той, хто мае нейкае дачыненне да сабак). На той жа падставе *гаротнік* — альпініст, *жрэц* — той, хто зашмат есць, *саперніkі* — птушкі з аднолькавым пер'ем.

Аб'яўляецца конкурс: хто больш складзе тлумачэнняў для псеўдаслоўніка за абмежаваны час (частка ўрока, заданне да наступнага ўрока, на працягу канікул і г.д.). Можна складаць іх нават на працягу навучальнага года і па меры складання здаваць на падпісаных лістках у журы або рэдакцыю насценгазеты, настаўніку. У канцы года з лепшых складаецца „Псеўдаслоўнік 19... года". У ім тлумачэнні размешчаны па алфавіту (можна і па некалькі на адно слова), за кожным у дужках названы аўтар.

В а р ы я н т: Складзі слоўнік — па аднаму слову на кожную літару азбукі; за кожнае слова — бал. Пераможцы па колькасці могуць быць пераможаны пераможцамі па якасці (нават тымі, у каго на некаторыя літары няма слоў), бо за асабліва смешныя тлумачэнні — за гумар першай, другой і трэцяй „катэгорыі" — дадаецца адпаведна пяць, тры і два балы. Замест лічбавых балаў можна ўжываць літарныя: *в* — „вельмі", *н* — „нішто сабе", *а* — „абы-што"; або: *с* — „смешна" і *н* — „нясмешна". Імі можа карыстацца калектыўнае журы, паказваючы адпаведныя карткі.

Такім чынам, псеўдаслоўнік:

*акно* — не вароты (футбольныя);
*базар* — супрацоўнік базы;
*воўк* — той, хто церпіць ад зайца;
*грамзапіс* — запіс рэвізора аб недаважванні ў магазіне;
*дваровы* — двое плаксаў;
*елка* — кандыдатка ў ёлкі;
*жаба* — жабо жаночага роду;
*завочнікі* — акуляры;
*іранец* — ранец Іры;
*лазня* — шведская сценка *(спарт.)*.

Далей слоўнік складайце самі.

## Тэлеграмы

Гульня ў тэлеграмы — таксама спаборніцтва ў дасціпнасці. Праўда, пасылаць іх па тэлеграфу наўрад ці хто рызыкне, а прачытаць у вясёлай кампаніі сяброў і блізкіх — цікава.

Задумана слова, напрыклад *кніга*. Ад кожнай яго літары трэба ўтварыць словы — з гэтых слоў і складаецца тэкст тэлеграмы. Што можа атрымацца — мяркуйце самі:

*Купі некалькі ігруш гнілых Аня*
*Коля не ідзі госці абутым*

і г.д. Службовыя словы, як і ў сапраўднай тэлеграме, апускаюцца, за выключэннем сэнсава неабходных. Вось яшчэ некалькі прыкладаў са словам *свая*:

*Слівы вашы абтрос я*
*Спяшайся варыць абед Ядзя*
*Сваё вараня абмяняй (на) ягня*
*Сагрэй вады абмый язык*
*Сеня (у) вагоне абгані яго*
*Суніцы важна аздобіць яйкамі*
*Салёную воблу апішы ямбам*

## Алітэрацыя

Алітэрацыя — інакш гукапіс, якім часта карыстаюцца ў сваіх творах майстры мастацкага слова як прыёмам, што дазваляе больш яскрава перадаць пытачу сутнасць вобразаў. Пашукайце прыклады алітэрацыі і ў творах нашых славутых пісьменнікаў.

А можна складаць і самім асобныя сказы, нават вершы з алітэрацыяй:

*Прыслухайся да нашай мовы:*
*Як ёмка сталі гукі ў словы!*

*Грукоча гром — скажы гучней,*
*І ты пачуеш гул грымотаў.*
*Журчыць ручэй — скажы цішэй,*
*І — ручаёк шапоча ўпотай.*

*Радзіма! Родныя! Герой! —*
*Якая моц у гэтых словах!*
*І сам ты чуеш, дружа мой,*
*Выразнасць, мілагучнасць мовы.*

*Як ціха пчолы лепяць соты,*
*Як змеі з схованў выпаўзаюць,*
*Як з чорных хмар грымяць грымоты,*
*І як гарністы гучна іграюць,*

*Як летні дожджык цёпла льецца,*
*Як з гор ручэй да рэчкі рвецца —*
*Прыслухайся да нашай мовы:*
*Тут вобраз ёсць за кожным словам!*

*(працяг у наступным нумары)*

# Вершы Віктара Шведа

### ПАТАНЦУЙ СА МНОЮ, ТАТА

Твар схаваўшы за газетай
Зачытаўся тата.
Наймілейшую касету
Уключае Ната.

І дзіцячай песні гукі
Звіняць у пакоі.
Доня тату хваць за рукі:
— Патанцуй са мною!

І ці хочаш, ці не хочаш
Дык згадзіцца мусіш.
Дакажы, што ты ахвочы
Танцаваць з дачусяй.

Кружыць Ната, кружыць тата,
Аж твары ў паценні.
Зварухнулася ўся хата
Галавакружэннем.

### ШАЛЕЕ ФЕДЗЯ НА ВЕЛАСІПЕДЗЕ

— Не шалей так, Федзя,
На веласіпедзе.
Сыночак знаёмых
Шмат прастыў, вядома.

Шалеў надта многа
І памёр нябога!
— Я хацеў бы ведаць,
Што з... веласіпедам?

### НЕ ТРЭБА НАМ ДРУГОЙ БАБУЛІ

Бацька надзеў вушанку-шапку
І ад'язджае ў горад.
— Купі святочную нам бабку, —
Жонка яму гаворыць.

Раптам азвалася Ганулія,
Пачуўшы вось такое:
— Мы маем нашую бабулю,
Не трэба нам другое!

### АБСАЛЮТНЫ ЎЛАДАР

Стаў гісторык пытаць
На занятках прысутных:
— Каго можам назваць
Уладаром абсалютным?

Адказаў Анатоль,
Заўсягды зухаваты:
— Гэта, пэўна, кароль,
Што яшчэ нежанаты.

### НА КАГО ПАДОБНЫ БРАЦІК?

— На каго падобны, Вацік,
Твой доўгачаканы брацік?
— Мой малюсенькі браточак
Мае, быццам, мае вочы.

Нос, здаецца, свайго таткі,
Вусны, кажуць, сваёй маткі.
Ну а голас у Яўгена —
Паліцэйская сірэна.

# ІГРАЎ Я НА ДУДЦЫ

Іграў я на дудцы, ту-лю-лю!
Седзячы у будцы, ту-лю-лю!

П р ы п е ў:
Ту-лю, ту-лю, ту-лю-лю, ту-лю-лю! *)

Грае мая дудка: ту-лю-лю!
Пяе весялушка: ту-лю-лю!

Як іграла дудка, ту-лю-лю!
Прыбег скакаць Юрка, ту-лю-лю!

А за Юркам — Янка, ту-лю-лю!
А за Янкам — Танька, ту-лю-лю!

*) *Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.*




# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Тата, у суботу ў нас бацькоўскі сход.
— Ну, трэба ж, як не своечасова! Мама будзе на рабоце, а я на рыбалку сабраўся...
— Ну, добра, стары, не хвалюйся. Увесь удар я вазьму на сябе!

* * *

— Дзеці, назавіце свайго любімага героя ў байцы Крылова „Варона і лісіца".
Дзеці хорам:
— Сыр!

* * *

— Тата, купі мне бубен...
— Сынок, пакінь мяне ў спакоі... Ты ж ведаеш, мне ўвесь дзень у вушах гудзяць гэтыя бормашыны!
— Таточка, купі... Я буду біць у бубен толькі тады, калі ты будзеш спаць.

* * *

Стаматолаг, перавязаўшы палец, выходзіць з кабінета і кажа маці маленькага пацыента:
— Я запламбіраваў яму зуб. Не дазваляйце яму кусацца на працягу паўтара— дзвюх гадзін.

* * *

Перад пісьмовым экзаменам:
— Бобі, я ўпэўнены, што не ўбачу, што ты будзеш спісваць!
— Я таксама, пан настаўнік!

* * *

Двое хлапчукоў трапілі на выстаўку абстрактнай скульптуры. Адзін з іх азірнуўся па баках і схапіў за руку сябра:
— Давай уцякаць адсюль, а то скажуць, што гэта мы нарабілі!

* * *

— У тваім узросце, — кажа бацька сыну, — Напалеон быў першым вучнем у класе!
— Так, тата, а ў тваім ён ужо стаў імператарам Францыі і каралём Італіі.

* * *

— Перакажы коратка змест карціны „Зноў двойка", Пеця.
— Хлопчык атрымаў на ўроку двойку, прыйшоў дамоў, зняў шапку і не павесіў яе на вешалку, павесіў галаву...

**ВАЛЕРЫ БАБЕЙ**

# ГУЛЬНЯ

Гаваркое Г гайдала Галку на галіне, гудзела:
— Галка-Галя, галодная графіня, не ганяй галубоў у галубятні, не грызі гарбузікаў на градах. Гэй-гоп-гуленькі! Гэй-гоп-гусанькі!..
Гена, Грыша, Груня, Гэля гулялі ў гарадкі. Глядзяць — Г гайдае Галку, гукаюць:
— Гэй, Г, пагуляй з намі ў гарадкі.
Г кінула гайдаць Галку:
— Гушкайся, Галка, сама. Я пагуляю ў гарадкі.
Галка-Гультайка ў гвалт:
— Г, пагайдай Галку.
Галка галёкала. Г пабегла да Гены, Грышы, Груні, Гэлі. Яны гасціння частавалі Г гарохам. Гуськом пабеглі за гарод гуляць у гарадкі.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**



*У Рыбалах.* Фота Г. Кандрацюк

# ЦВІТУЦЬ КВЕТКІ ДЭЗІНФАРМАЦЫІ

Хоць не часта, то ўсё-такі час-часам у сталічным Менску паяўляюцца выказванні літаратурных крытыкаў ды літаратуразнаўцаў пра творчасць беларускіх пісьменнікаў у Польшчы.

У сувязі з вядомымі нам усім рашучымі палітычна-грамадскімі зменамі ў нашым свеце, нічога дзіўнага, што і ў Менску, ад нядаўняга часу, адчулі патрэбу напісаць абноўленую, а можа і зусім новую гісторыю беларускага прыгожага пісьменства.

Як вядома, новую гісторыю немагчыма напісаць адразу, без ранейшай салідный падрыхтоўкі. Тут асаблівая патрэбна дыстанцыя, патрэбен час дзеля вывучэння кожнай новай і старой „новай" з'явы, падзеі, фактаў, упісання іх у адпаведны кантэкст культуры.

Рабіць такую вось папярэднюю працу і паставіў сабе за мэту т. зв. Часовы творчы калектыў пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. Гэты Часовы калектыў арганізаваўся ў сярэдзіне 1991 года. І ўжо ў пачатку 1993 г. вынікам яго працы сталася першая кніга пад назвай „Культура беларускага замежжа". У сярэдзіне таго ж мінулага 1993 года з'явілася і другая кніга пад той самай назвай.

Часовую групу навукоўцаў узначаліў прафесар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі. Ва ўступным слове да другой кнігі ён спадзяецца, што „падводзячы пэўныя падрахункі, самі сабой павінны адпасці ідэалагічныя падпоркі і догмы; што будуць удакладняцца, а часам і карэнным чынам перагледацца, пераасэнсоўвацца асобныя палажэнні і ацэнкі".

Сказана праф. Анатолем Сабалеўскім гэтае залатое слова, вядома, пастулатыўна, на свой спосаб прыгожа і, несумненна, з добрым пажаданнем сваім супрацоўнікам выйсці ў адкрытую перспектыву навукі.

Аднак жа... аднак, як усім вядома, паміж творчай задумаю, інтэнцыяй і яе выкананнем часта ляжыць прорва. І тут таксама, на жаль, няма адпаведнасці. „Аўтарытэтныя спецыялісты", як называе ў прадмове праф. Анатоль Сабалеўскі сваіх падначаленых калег, аказаліся ўсяго-наўсяго перапісчыкамі-дылетантамі.

Я выказваю гэтае меркаванне аб іх працы на аснове таго, што і як яны напісалі пра нашых пісьменнікаў з аб'яднання „Белавежа". Чытаючы, я міжволі лавіў сябе на думцы, што гэту пісаніну я ўжо не раз сустракаў. З канца шасцідзесятых гадоў яна вандравала ў нас доўгі час па ўсіх календарах ды іншых БГКТоўскіх выданнях, трапляла пры юбілеях і на старонкі „Нівы", і польскага беластоцкага друку.

Матэрыял пра „белавежцаў" у другой кнізе „Культура беларускага замежжа", затытулаваны „Раку жывяць ручаіны", вельмі заносіць спёртым паветрам савецчыны. Ён напісаны заштампаванай, казённа-службісцкай моваі. З жахам успрымаю, напрыклад, што *„белавежцы" ўпэўнена трымаюць творчую справаздачу* або што *кніга прынесла пісьменніку заслужаную вядомасць*. Ці адчуваеце, паважаныя чытачы, што стаіць за такімі нібы нявіннымі слоўцамі: *справаздача, заслужаная* вядомасць? А стаіць за імі ўся тая ж таталітарная сістэма думання. Можна, бачыце, быць агульна прызнаным пісьменнікам, але *незаслужана* вядомым, бо на гэта яшчэ не дазволіў нейкі вышэйшы самадур-чыноўнік з эшалону ўлады, які надалей (?) пільнуе, хто мае быць вядомы, калі і за што.

Глухой старызной аддае тут і падыход да творчых індывідуальнасцей „белавежцаў". У першай кнізе „Культура беларускага замежжа" адзін раздзел поўнасцю прысвяцілі творчасці аднаго „нашага" паэта, як калісь вялічалі яго ў „Ніве". Аўтар Яўген Адамовіч „развівае" канцэпцыю старога вучыцеля Уладзіміра Казберука, які яшчэ ў 1973 годзе (гл. „Літаратурная Беласточчына", Мінск) устанавіў, відочна, на векі вечныя для беларускіх навукоўцаў непарушную табель аб пісьменніцкіх рангах. Ну, а калі яна існуе, то сілаю акалічнасцей іншым ужо ніяк нельга адводзіць таксама раздзелаў. Пра іншых „белавежцаў" нейкі Алесь Марціновіч піша агулам, ссыпаючы ўсіх у адзін мяшок, як сляпых кацянят — і Сакрата Яновіча, і Васіля Петручука, і Міхася Гайдука, і Надзею Артымовіч, і ўсіх астатніх.

Ды каб гэта яшчэ інтэлігентна, з культурай пісьма! Але як і раней, тыя выказванні — засацыялагізаваныя, заідэалагізаваныя — непрыемна здзіўляюць яўнымі перайначваннямі фактаў, назваў, прозвішчаў (Свісёнак, Шабыловіч), недакладнасцямі цытаваных вершаў. Колькі варты гэтыя два артыкулы пра „белавежцаў", можна меркаваць на прыкладзе вось такой „кветачкі": *Актыўна выявілі свае творчыя асобы*, — піша Я. Адамовіч, — *Базыль Чачуга, Віктальд Мікульскі, Мікалай Козак... Уладзімір Юзвюк, Анатоль Хлябцэвіч... Язэп Малеша...* Вось як! Нават Віталь Мікульскі, беларусаед, запісаны ў актыў пісьменніцкі „Белавежы".

Так вось, на жаль, беларускі чытач у Рэспубліцы Беларусь атрымаў ладны паштэт дэзінфармацыі пра гісторыю „Белавежы" і яе творчыя дасягненні. А фактычна нічога не атрымаў. Залізаныя аўтарамі матэрыялы, перайначаныя факты і з'явы, паказаны імі ў такім здэфармаваным павярхоўным асвятленні і так шыкоўна па-савецку, што ніхто з гэтага не зможа толкам нічога зразумець. Магчыма, на другія тэмы захаваны застаўся той самы ўзровень. Ну і добра, так і трэба! Няхай перад вачыма тых, хто хоча чытаць нешта пра культуру беларускага замежжа, надалей скачуць адно чарцяняты.

У гуманістыцы, аказваецца, нішто не стаецца „само сабой".

Аглядальнік

*БАРЫС РУСКО*

**БЛУКАННЕ**

З ніадкуль і з адусюль,  
з ачагу світання  
і з прадвесніка ночы,  
з добрага замеру  
і з каменнай праўды,  
з развагі здаровай  
і з рэха крыку,  
з нявідных ценяў  
і з густой стыхіі,  
з нямых хвілін  
і з хады гадзіннікаў  
прыходзіць да канца не завязаны  
вузел шаптуна — творцы.

**ПАРАБАЛА**

Выцягнуліся рукі за плечы  
А канца не відаць.  
А далёка ўяўленню да дна.  
І ёсць месца на варажбу.  
І бясконцую мелодыю.  
І карціну гаворкую.  
І крык маўклівы.  
Парабалай ілюзіі  
паўзе слімак.

*МІХАСЬ АНДРАСЮК*

**СТАІЦЬ ЦЕНЕМ ДРАПЕЖНЫ СОКАЛ**

цэлае жыццё шыкаваўся ў дарогу,  
збіраў  
грош да гроша, а ўсякія крамнікі  
тыцкалі  
пад нос бліскучыя цацкі — барабанчыкі,  
каб  
вымантачыць гэтае мізэрнае грашаня,  
плён  
нястач і пакаянняў

* * *

за глыбока мы ўпалі за далёка  
з першай хвіліны  
каб падняцца ў адным падарожжы  
стаіць ценем драпежны сокал  
у блакітных вачах галубіных  
апускаем далоні ў малітву краявідаў  
калі водзяцца за мазгаўні  
розум і вера  
а між душой і целам  
танцуюць хмары сонных прывідаў

# ПАМЯЦЬ ВІЛЬНІ

Пад такім загалоўкам праводзілася ў палацы Красінскіх у Варшаве ў сакавіку 1994 г. выстаўка памятак з Вільні, дастаўленых грамадзянамі з прыватных калекцый. Арганізатары выстаўкі — Таварыства любіцеляў Гародні і Вільні прадбачылі месца і нацыянальным меншасцям, што мелі ўдзел у жыцці Вільні, і іх культуры ў міжваенным перыядзе — у 1920—1939 гадах.

З гэтай нагоды, апрача жыхароў польскай нацыянальнасці, скарысталі яўрэі, караімы, якія атрымалі адну вітрыну і беларусы — таксама адну. Беларускую экспазіцыю састаўлялі 15 віленскіх выданняў з 1920—1938 г.г. з кнігазбору праф. Аляксандра Баршчэўскага (з запрапанаваных ім 20 кніжак і часопісаў) і з сямейнай бібліятэкі ды архіва Кацярыны Собчак, 4 кніжкі Янкі Жамойціна ды некалькі здымкаў і дакументаў, між іншымі: здымак вучняў Беларускай гімназіі з урачыстасці прысвечанай 12 угодкам 25 Сакавіка, хор Саюза беларускіх студэнтаў з Рыгорам Шырмай і Міхасём Забэйдай-Суміцкім, дакументы ад 4.09.1922 г. аб прызначэнні Браніслава Тарашкевіча дырэктарам Беларускай гімназіі, фрагменты музея А. Луцкевіча і іншыя. Хоць экспазіцыя атрымалася сціплай, то аднак сведчыла аб размаху культурнага і грамадскага жыцця беларусаў Віленшчыны. Доказам гэтага з'яўляецца факт, што экспанаваныя кніжкі паходзілі аж з пяці віленскіх беларускіх друкарняў: імя Скарыны з Завальнай вуліцы, І. Левіна з вул. Нямецкай, Экспрэсс з вул. Вялікай, С. Бэкера і друкарні Віленскага Выдавецтва Клецкіна. Кніжкі ў большасці былі купленыя ў беларускай кнігарні „Пагоня" пры вул. Завальная, 1.

Імпазантнай паказалася і колькасць выдавецтваў, якія выпускалі гэтыя кніжкі. А вось яны: „Голас Беларуса", Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, кс. Яна Семашкевіча, Сялянска-рабочага Пасольскага клуба, „Калоссе".

Прапанаваны быў на выстаўку спісак больш за 15 беларускіх арганізацый і іншых згуртаванняў навуковага, гаспадарчага, грамадскага і палітычнага характару, што дзейнічалі тады ў Вільні, але, на жаль, не адпавядаў ён патрабаванням аўтэнтычнага экспаната і не знайшоў месца на экспазіцыйным стэндзе.

Незалежна ад сціпласці, беларуская экспазіцыя і так задзівіла не толькі наведвальнікаў, але і арганізатараў выстаўкі — пажылых віленскіх польскіх інтэлігентаў — размахам прысутнай у тадышняй Вільні беларускай культуры, творчай думкі, арганізацыйнай дзейнасці.

Я. Ж.

# ПРАФЕСАР БАРШЧЭЎСКІ ПАМЫЛЯЕЦЦА

У VIII частцы сваёй публікацыі „Мая Наталля Арсеннева", у якой, між іншым, ідзе гаворка пра пасланне выдатнай паэтэсе ў сувязі з дзевяностымі ўгодкамі з дня яе нараджэння („Ніва" н-р 14 ад 3 красавіка 1994 г., с. 10), праф. д-р габ. Аляксандр Баршчэўскі піша:

„Пачынаючы ад 1921 г., на працягу болей чымсці сямідзесяці гадоў, Вы паслядоўна і ўпарта прадаўжалі тварыць і сеяць на высакароднай ніве беларускай паэзіі" (сказ з тэкста паслання)

і далей:

„Яна — карэнная руская, выхаваная ў сям'і рускага чыноўніка — пачала вучыцца ў беларускай гімназіі ў 1920 г., а ў 1921 годзе ўжо апублікавала першы беларускі верш. Пяць гадоў пазней склала ў выдавецтва вялікі зборнік сваёй беларускай паэзіі „Пад сінім небам".

У гэтых двух кароткіх сказах і, што найгоршае, у самім тэксце паслання, адрасаванага славутай паэтэсе, аднагалосна прынятым удзельнікамі настаўніцкай канферэнцыі ў Бельску, разам пракраліся ажно ў трох месцах памылкі.

Славутая паэтэса дэбютавала не ў 1921 г., — як піша праф. А. Баршчэўскі, — а ў 1920 на старонках узноўленай Антонам Луцкевічам у Вільні „Нашай нівы". Дакладна — у першым яе нумары ад 8 кастрычніка 1920 г. вершам „Мой родны край".

У сувязі з гэтым зборнік Наталлі Арсенневай „Пад сінім небам", які з'явіўся ў 1927 г., зложаны быў, такім чынам, на год пазней ад таго часу, пра які піша праф. А. Баршчэўскі, г. зн. прынамсі шэсць гадоў пазней ад паэтычнага дэбюту.

Пра тое пісаў я на старонках амерыканскага „Беларуса" яшчэ ў 1990 г. у сваёй публікацыі „Да 70-годдзя друкавання пачатку Н. Арсенневай" („Беларус" н-р 375, лістапад 1990 г., с. 5), але, відаць, Прафесар не чытае беларускай амерыканскай прэсы.

Найбольш прыкрае, што гэткая памылка з'явілася ў самім тэксце палымянага паслання, аднагалосна прынятага ўсімі ўдзельнікамі настаўніцкай канферэнцыі.

ЮРЫ ТРАЧУК

# ВЫСТАЎКА Ў КАМЯНЮКАХ

Дырэктара музея Дзяржаўнага нацыянальнага парку „Белавежская пушча", што ў Камянюках на Беларусі, д-ра Паўла Міхалевіча, у Белавежы добра ведаюць амаль усе. Восенню мінулага года ён паказваў тут вельмі цікавую выстаўку свежых грыбоў, што растуць у белавежскіх нетрах. Прабываючы ў Белавежы, д-р Міхалевіч паглядзеў выстаўку здымкаў, якія былі выкананы ў даваенны перыяд праф. Янам Ежы Карпінскім, дарэчы — штатгадовым дырэктарам Белавежскага нацыянальнага парку. Яму захацелася паказаць гэтыя здымкі (цэнныя перш за ўсё як дакументальны матэрыял, але таксама цікавыя па сваёй высокай мастацкасці) у сябе.

І, вось, 11 красавіка г.г. у холе камянюцкага музея была адчынена выстаўка 24 вялікіх памерамі здымкаў, выкананых праф. Карпінскім у гадах 1929—1945. Выстаўку распланаваў і выканаў (пры нагодзе спатрэбілася забудаваць адну сцяну) сам дырэктар музея. Збор прыродазнаўчых па змесце здымкаў папярэджвае партрэт праф. Карпінскага і яго кароткая біяграфічная зводка.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічала дэлегацыя з трох працаўнікоў Белавежскага нацыянальнага парку. Яго дырэктар, Чэслаў Аколаў, выступіў з кароткай прамовай, у якой напомніў усім прысутным асобу аўтара здымкаў.

Павел Міхалевіч думае экспанаваць гістарычныя здымкі каля аднаго года. Пра яе паявіліся ўжо звесткі ў раённай прэсе, так беларускай, як і польскай.

ПЁТР БАЙКО

# МАСТАЦТВА АЎРОРЫ

Апавяданні пра людзей гэта галоўная тэма допісаў нашай Аўроры, Ірэны Лукшы, якія друкуюцца амаль у кожнай „Ніве". Напісаны яны жывой і простай моваі, што аж хочацца чытаць. Я калісьці меў пэўныя сумненні наконт яе творчасці, але памыляўся і цяпер дакладна чытаю нарысы Аўроры. І дзівуюся, адкуль у яе столькі настойлівасці, энергіі і часу на збіранне ў народзе каштоўных вестак пра нашу гісторыю, фальклор і абычаі. Вялікія класікі, як Талстой ці Пушкін, таксама пачыналі свой творчы шлях з такіх былін. Добра было б, каб выйшла асобная кніга Ірэны Лукшы; яна пылам не пакрыецца. Жадаю Аўроры поспеху ў гэтай справе.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

# КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

## І частка

Ужо 6 гадоў пры Беларускім фондзе культуры ў Менску існуе Камісія „Вяртанне", якая займаецца пошукамі і стварэннем картатэкі помнікаў нацыянальных, гістарычна-культурных каштоўнасцей, што ў часы войнаў і розных ліхалеццяў апынуліся па-за межамі Беларусі. Адным са старажытных помнікаў нацыянальнай культуры, які таксама без следу загінуў, з'яўляецца крыж св. Еўфрасінні Полацкай.

Пра Еўфрасінню Полацкую і ейны крыж напісана апошнімі гадамі гэтулькі, што амаль кожны нешта пра іх чуў. Для вернікаў Еўфрасіння Полацкая з'яўляецца галоўнай беларускай святой, якую шануецца, як нябесную ахоўніцу народа. Што тычыцца крыжа святой Еўфрасінні, дык ён згодна прызнаецца нашай галоўнай нацыянальнай святыняй. На жаль, побач з тысячамі іншых каштоўнасцей крыж загінуў без весткі ў перыяд ліхалецця II сусветнай вайны. Прыблізна ад чатырох гадоў, інтэнсіўна і на вышэйшым дзяржаўным узроўні праводзяцца пошукі гэтага шэдэўра нацыянальнай культуры, на жаль, як дагэтуль, беспаспяхова.

Перш чым перайсці да сучаснасці і таго, што робіцца ў справе крыжа, прыгадаем менш ці больш вядомыя факты, без якіх немагчыма зразумець, чаму крыж і адшуканне яго такія для Беларусі важныя. „Лето 6669 (ад стварэння свету) — чытаем у летапісе — покладает Офросінія чэстный крэст в монастыры своем в цэркві святога Спаса". Еўфрасіння — дачка полацкага князя Святаслава Усяславіча, унучка Усяслава Брачыславіча, праўнучка кіеўскага князя Уладзіміра, была першай ігуменняй Спаскага манастыра. Адбудаваўшы храм Спаса, яна заказала ў Лазара Богшы напрастольны крыж. Шасціканцовы крыж выкананы быў з „чэстнога", гэта значыць дарагога, высакаякаснага дрэва, хутчэй за ўсё з кіпарысу. Крыж вышынёю у 51,8 сантыметра меў два няроўныя скрыжаванні: верхняе — 14 і ніжняе — 21 см. На драўляную аснову пакладзены былі сярэбраныя, пазалочаныя і залатыя пласціны, з тонкімі эмалевымі аздабленнямі і васьмю дарагімі камянямі, з якіх напрыканцы мінулага стагоддзя засталося іх 7. Пласціны ўтварылі на пярэднім баку іканапісную кампазіцыю — вялікі або расшыраны „дэйсіс". Акрамя карбункулу, крышталю і двух халцэдонаў, усе астатнія камяні з часам, у выніку зменлівага лёсу, былі заменены шклом.

З абодвух бакоў крыжа знаходзілася 20 выяваў святых, архангелаў і апосталаў. Тры з іх: св. Еўфрасіння Александрыйская, св. Георгій і св. Сафія з'яўляліся патронамі самой Еўфрасінні, ейных бацькі і маці. Па баках крыж аздоблены быў надпісам, а ў самым нізе адваротнага боку крыжа, пад абразом св. Панцеляймона, выціснута было імя майстра Лазара Богшы. У крыжы знаходзіліся рэліквіі, якія зараз знаходзяцца ў гэтак званым антымінсе і якія неабходныя для таго, каб у царкве маглі адбывацца багаслужбы: кроў Ісуса Хрыста, кавалачак дрэва з крыжа Гасподняга, камень ад труны Прасвятой Багародзіцы і частка мошчаў св. пакутніка Панцеляймона. З атрыманнем такіх дарагіх рэліквіяў не магло быць цяжкасці, паколькі полацкія князі былі ў сваяцтве з візантыйскімі імператарамі. Па просьбе Еўфрасінні, імператар Мануіл Комнін і патрыярх Лука Хрысангвег паслалі ў Полацк ікону Божай Маці Адзігітрыі, паводле паданняў, адну з трох намаляваных евангелістам Лукою.

З Візантыяй звязвае крыж Еўфрасінні таксама шасціканцовая форма, якая сталася папулярная якраз у XII стагоддзі. У Расеі захавалася толькі некалькі такога тыпу крыжоў з дамангольскага перыяду. Таксама найбольш цікавыя з мастацкага пункту гледжання каляровыя эмалі з раслiннымі арнаментамі, якія патрабавалі складаных тэхналагічных прыёмаў і немалога майстэрства, супадаюць з тагачаснымі традыцыямі Візантыі і Кіеўскай Русі. З гэтай прычыны мяркуецца, што сам Лазар Богша мог паходзіць з Полацка, але мог прыбыць з Кіева або нават з Візантыі. З другога боку, 6 гадоў таму ў самым цэнтры Полацка археолагі знайшлі сядзібу полацкіх ювеліраў XII стагоддзя. Ужо самыя памеры сядзібы сведчаць аб высокім статусе ювелірнага рамяства ў той час. Сярод адкапаных прадметаў ёсць упрыгожанні са шкла, бронзы, бурштыну, тыглі для плаўкі металу і ювелірныя вагі.

Не падлягае сумненню, што полацкія рамеснікі працавалі на масавы попыт, але археалагічныя знаходкі пацвярджаюць высокі ўзровень майстэрства тагачасных вырабаў. Улічваючы рознабаковасць інтарэсаў майстроў, уменне апрацоўваць розныя матэрыялы і валоданне складанай тэхналогіяй яны паказваюць, што мясцовы майстар мог справіцца з такой высакаякаснай працай як крыж Еўфрасінні Полацкай. Ёсць падставы меркаваць, што вырабаў на такім узроўні ў XII стагоддзі магло быць болей, але крыж, у адрозненне ад іншых каштоўнасцей, захаваўся да нашых часоў.

Як мастацкі твор, крыж Еўфрасінні Полацкай не мае цаны. Як вынікае з надпісу на самым крыжы: „каванне яго, золата, серабро і каменні каштавалі 140 грыўнаў" — раўнацэннасць 46 коней або 70 кароў. Для князёўны гэта не быў надзвычайны выдатак і матэрыяльная вартасць была ў дадзеным выпадку другараднай. Яго каштоўнасць заключаецца ў высокім тэхнічным і мастацкім узроўні вырабу. Акрамя таго, не менш важнейшая была яго рэлігійная функцыя як напрастольнага крыжа і пакладзеныя ў яго мошчы святых, якіх наяўнасць ператварала Полацк у рэлігійны цэнтр. Мабыць, побач з майстэрствам, у не меншай ступені гэта надавала крыжу значнасць, зрабіла яго агульнавядомым не толькі ў межах Полацкага княства, але і паўплывала на яго далейшы лёс. Аб гэтым, аднак, наступным разам.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# НЯДЗЕЛЯ СВ. АПОСТАЛА ФАМЫ

Фаміна Нядзеля — першая з сямі нядзель, якія маюць супольную назву **нядзель пасля Пасхі**. Вынікае яна з таго факта, што нядзелі наступаюць непасрэдна па Уваскрэсенню і згадваюцца ў гэтыя дні здарэнні, звязаныя з усхаляннем Ісуса Хрыста. А вось назвы паасобных нядзель:

— Св. Фамы (Фаміна Нядзеля),
— Св. Жанчын-Міраносіц,
— аб нядужым,
— аб самаранцы,
— аб сляпым,
— Св. Айцоў І Усяленскага Сабора,
— Сашэсце Святога Духа на Апосталаў.

У нядзелю Св. Апостала Фамы ўспамінаецца з'яўленне Ісуса Хрыста ўсім адзінаццаці Апосталам, у тым ліку і Апосталу Фаме, які не прысутнічаў пры першым з'яўленні Збавіцеля сваім вучням. У такі спосаб Хрыстос паказвае ўсім, што пасля Уваскрэсення ў яго было сапраўднае цела, з ранамі, зробленымі ў выніку распяцця. Евангелле гэтай нядзелі так піша аб гэтым здарэнні: „... А Фама, адзін з дванаццацёх, званы Блізнюк, не быў тут з імі, калі прыходзіў Ісус. Іншыя вучні сказалі Яму: мы бачылі Госпада. Але ён сказаў ім: калі не ўбачу на руках Яго ран ад цвікоў і не ўваткну пальца майго ў раны ад цвікоў, і не ўлажу рукі маёй у бок Яго, не паверу. І праз восем дзён ізноў былі ў доме вучні Яго і Фама з імі. Прыйшоў Ісус, калі дзверы былі закрыты, стаў пасярэдзіне іх і сказаў: мір вам! Потым кажа да Фамы: дай палец твой сюды і паглядзі рукі мае; дай руку тваю і ўлажы ў бок мой; і не будзь няверуючым, але веруючым. Фама сказаў Яму ў адказ: Госпадзе мой, Божа мой! Ісус кажа яму: ты паверыў, таму што ўбачыў Мяне; шчаслівыя не бачыўшыя і паверыўшыя..." (Іаан, 20: 19-31).

Восьмы дзень Пасхі, які завяршае Святую Сядміцу называецца таксама **Антыпасхай** (па-грэчаску: замест Пасхі), бо з'яўляецца як бы заменай ці паўтарэннем велікоднага дня.

З гэтага дня пачынаецца круг нядзель і тыдняў усяго літургічнага года. У гэты дзень упершыню пасля Пасхі здзяйсняецца адраджэнне памяці Уваскрэсення, і таму менавіта гэтая нядзеля атрымала таксама назву новай (першай) або дня адраджэння (абнаўлення). Спалучаецца яна таксама з фактам, што Хрыстос у выніку з'яўлення Сваім вучням адрадзіў, абнавіў радасць Свайго Уваскрэсення.

Нядзеля гэтая называецца таксама **праваднай**, бо канчае або **вядзе** тыдзень Уваскрэсення. У аўторак пасля Нядзелі Апостала Фамы вернікі наведваюць магілы сваіх блізкіх, каб падзяліцца з імі **радасцю** Уваскрэсення, ад чаго і пайшла назва гэтага дня **Радаўніца**. У гэтую нядзелю ў прыходах Уваскрэсення Гасподняга адзначаюцца прыходскія святы, між іншым, у прыходзе ў квартале Сонечны Сток у Беластоку.

**С. Н.**




**Адказ Д. Шатыловічу і М. К.**

Спадару Д. Шатыловічу здаецца, што ён вялікі „багаслоў" („Яшчэ раз аб Евангеллі ад Мацвея", „Ніва" н-р 16 ад 17.04.1994 г.) і ніхто не мае права пярэчыць яго догмам і інтэрпрэтацыям „Біблії". Мае ён жаль да мяне і да С. Н. — людзей, якія адважыліся па-свойму ацаніць ягоны артыкул „Ці мытнік Левій быў евангелістам". Маю адгалоску лічыць „злосным крыкам"; не ведае, відаць, народнай пагаворкі „у ціхім балоце чэрці растуць". Хоча мяне панізіць і падарваць мой аўтарытэт, пішучы пра мяне „... калі хто мае іншыя погляды чым ён, калі хто яму не спадабаецца, то стараецца ўтаптаць яго ў гразь". Дык гэтыя словы, спадар Шатыловіч, у першую чаргу падыходзяць да Вас: бо каму патрэбны мудрыя слоўцы такія як „пасіўны"? Напэўна не селяніну. Здзіўляюся, дзе гэта спадар Шатыловіч змог знайсці столькі беларускіх слоўнікаў, дзе лёгка можна знайсці слова „пасіўны". Я знайшоў падобнае слова — „пасіі" толькі ў Беларускай савецкай энцыклапедыі (том 8, стар. 300); магчыма, слова „пасіі" розніцца ад слова „пасіўны" — я просты земляроб, не вучоны і пляваць мне на заходніх біблiёлагаў, бо бачым да чаго давялі яны цэлыя народы: да нацыяналізму і нянавісці. А Льва Талстога пакіньце ў спакоі — гэта быў глыбокаверуючы чалавек, а тое, што адышоў ад Праваслаўнай царквы, дык гэта была яго асабістая справа і, калі б не раптоўная яго смерць, ён напэўна вярнуўся б на ўлонне Праваслаўнай царквы. І запамятайце, што Евангелле не падлягае ніякаму асуджэнню!

Хачу яшчэ адказаць М. К. на яго нататку „Пільнуйцеся ад ілжывых пракокаў" („Ніва" н-р 16 ад 17.04.1994 г.), у якім піша: „Няхай карэспандэнт з Дубіч адкажа, хто не з'яўляецца камуністам? Няўжо Сталін быў антыкамуністам, паколькі ён людзей „з вышэйшай сферы" пасылаў у лагеры або ў зямлю?"

Мой адказ: Сталін не быў „антыкамуністам", а горш — ён быў д'яблам. Ён аднолькава абыходзіўся, і з камуністамі, і некамуністамі. Сярод камуністаў было многа прыстойных людзей, якія любілі свой народ і краіну, а Сталін іх усіх дачыста вынішчыў. Ці М. К. толькі сёння нарадзіўся, што не ведае пра гэта?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ЦІ ПАЛЯКІ ПРАЎДЫ НЕ КАЖУЦЬ?

У 11 нумары "Нівы" ад 13 сакавіка я прачытала ліст „Селяніна з Сакольскага павета" і вельмі здзівілася. Чаму так ёсць? Палякі ўсё паўтараюць, што нельга фальшаваць гісторыю, а самі нахабна гэта робяць. Калі гэты селянін чытае „Ніву", а рэдакцыя надрукуе маё выказванне, то няхай ён ведае, што нікому хлусня на добрае не пайшла.

Веравызнанне ў Польшчы часта мянялася ў залежнасці ад палітычных абставін. Мая бабуля гаварыла, што было ў нас уніяцтва да падзелаў Польшчы, а пасля зноў людзі вярнуліся ў праваслаўе.

У нас захаваліся каталіцкія ксёнжкі да навучання рэлігіі, але людзі папольску не размаўлялі — палякамі не былі (я на аглядзе беларускай песні заспявала старадаўнюю песню „Выйшла з касцёланька, ужэ ні дзеванька..."). Мая прабабка чула гэта ад сваёй бабулі.

Як Польшча атрымала незалежнасць, палякі ўсіх праваслаўных хацелі перавесці ў каталіцызм. У маёй роднай вёсцы толькі адна сям'я перахрысцілася ў касцёле. Іх і дасюль называюць „Каталіковымі". Рэшта засталася ў праваслаўі. Паліцыянты хадзілі і забаранялі працаваць у каталіцкія святы. Аднойчы прыйшоў паліцыянт да майго прадзеда Давыда, што рубаў дровы.

— Пане Бірыцкі, цо пан робіш, пшэцеш дзісяй сьвенто!

— Што мане абходзіт, што сегоні якоесь сьвято, — сказаў Давыд.

— Тылько не „якоесь там", а польске, католіцке!

— Каб вы мне давалі грошы, то я сьветкаваў бы сьвято праваслаўнэ, каталіцке, жыдоўске, німэцке і французьке, а як німа грошэй, то я нічого сьветкаваці ні буду. А, зрэшту, я ўжэ стары і мне сьмэрць ні страшна. Я тут жыву і буду жыці, а такіх як ты, сыночку, то я бачыў много. Іх рассылают кругом, а я ўсё тут.

— Правдэ пан Бірыцкі мувіш, але лепей не працуй в польске сьвенто, бо можэ быць зьле, — сказаў паліцыянт і пайшоў далей.

Як інакш назваць факт разбурання праваслаўных цэркваў на Холмшчыне, як не праследаваннем? Пад'язджалі трактары, падчаплялі да дылёў шнуры і расцягвалі будоўлі! У чым перашкаджаў храм? Муляў вочы католікам сваім „няпольскім" выглядам?

Колькі разоў мы чуем ад палякаў, што мы „кацапы"! Здавалася, хоць сорак апошніх гадоў было абыякава, хто ёсць хто. Ва ўсіх грамадзян былі роўныя правы. А як цяпер?.. Ці мы маем быць „белымі неграмі"? Колькі ж можна паўтараць хлусню, што ў службах ОРМО, міліцыі і бяспекі былі толькі праваслаўныя беларусы і ўкраінцы? Ва ўсёй Польшчы не хапіла б нашага народу!

Так заўсёды было, ёсць і будзе, што калі чагосьці не аддасі дзяржаве ці зробіш што нязгодна з правам, цябе пакараюць. Наша, прыватнае, можа прапасці, але дзяржаўнае — не можа. Пасля вайны не адзін селянін трапіў у турму з-за невыпаўнення абавязковых паставак. Цяпер тое ж з падаткамі — не разлічышся як трэба ці ашукаеш на залатоўку, цябе пакараюць. Дзяржава ёсць дзяржава.

Хачу запытаць „Селяніна" з-пад Саколкі, чаму з такой нянавісцю піша аб праваслаўных? Чаму яму не сорамна за злачынствы ягоных суродзічаў, што забілі нявінных жыхароў Заняў, Залешанаў, Вулькі Слохаў, Шпакоў?..

**АЎРОРА**

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

## (8)

### Па слядах гісторыі

Адкуль прыйшлі пасяленцы ў паласу ўсходняга сумежжа ды як адбывалася пасяленне ў Ялоўскім старастве ад XVI да XVIII стагоддзя? Гэтыя пытанні дапамаглі мне высветліць навуковыя працы праф. Ежы Вісьнеўскага з Кракава і мгр Ніны Ціванюк з Рыбакоў ды весткі з манаграфічнай працы (у падрыхтоўцы) пра Міхалоўскую гміну д-ра Лешка Носа з Міхалова.

„Мясцовыя назвы — гэта багаты пазнавальны матэрыял, люстра, у якім адбіваецца жыццё і дзейнасць чалавека, гісторыя тэрыторыі, яе структура і рэльеф, флора, фауна, грамадскія адносіны і да т.п.", — напісала ў сваёй магістэрскай працы пад загалоўкам „Развіццё пасяленняў у Ялоўскім старастве ад XVI да канца XVIII стагоддзяў у святле тапаніміі" Ніна Ціванюк.

У Ялоўцы быў панскі двор. Да сённяшніх дзён праіснавалі па вуліцы Дворнай рэшткі муру (сцен) колішняга двара. Выпіс інвентару Ялоўскага староства называе ды пералічвае, між іншым, водныя млыны пад мястэчкам і каля двара на рэчцы Ялоўцы ды тры млыны на рацэ Луплянцы. У 1784 годзе каля Ялоўкі былі тры млыны. Адзін млын быў на рачулцы, што працякае каля вёскі Тайніца. Раней была яна паўнаводная, з шырокай поймай у ніжнім цячэнні ракі.

Ялоўскі двор меў уласную півварню. Жыхары вёскі пастаўлялі чатыры бочкі хмелю за кожную валоку зямлі. Захаваліся некаторыя назвы, напрыклад, Хмельнік — луг каля Тайніцы, Стары Хмель — поле каля Каляснога і Супруноў ды Хмелі — поле каля Біндзюгі. Півварня была таксама каля вёскі Навасады. Тут вырошчвалі хмель на вялікай пасяўной плошчы.

У вопісе інвентару ад 1784 года можна прачытаць пра шклозавод, які знаходзіўся паўтары мілі ад Ялоўкі. Раней, бо на пачатку XVII стагоддзя, пачалі здабычу і выплаўку жалеза з руды над Луплянкай (Рудня — 1623 г.) і ў Лявонавічах над Луплянкай (Жужлі). Магчыма, што існаваў шклозавод каля вёскі Буды (поле Гуціско і поле Пад Гутаю).

У пушчы гналі смалу, выраблялі дзёгаць і драўнінны вугаль. З гэтай дзейнасцю звязаны назвы: поле Смольна каля Біндзюгі, луг Смольна каля Лявонавіч, поле Смольна каля Тайніцы, поле Сталярня каля Ціванюкоў ды Вуглявыя дадаткі — поле каля Тайніцы. Дзёгаць нарыхтоўвалі ў Дзягілях.

З рыбалоўляй звязана пасяленне над Нарвай — Ізбы Рыбацкія (сёння Рыбакі). Сярод назваў месц вядомых рыбакам на рацэ Нарве выступаюць Кухніско (глыбіня каля Біндзюгі) і Тоня (бяздонне у рукаве ракі Нарвы каля Сушчы).

Каля Сушчы капалі гліну і выраблялі гаршкі. Захавалася назва луга — Каля Гарна. Мабыць, ганчарствам займалася жыхары пасялення Ганчары каля Кандраткаў.

Каля Будаў поле называюць Каля Парні. Тут даўным-даўно парылі драўніну ды выгіналі драўляныя абручы да вазоў.

У мястэчку Ялоўка ды ля скрыжаванняў важнейшых шляхоў ставілі карчмы. Былі яны таксама ў Цісоўцы, Залешанах, Шымках, Лявонавічах, Юшкавым Грудзе і ў Бандарах ды каля Раманава, а таксама паміж вёскамі Юшкавы Груд і Ціванюкі. Некаторыя з іх працавалі яшчэ ў міжваенны перыяд. Яшчэ стаіць будынак карчмы з 1884 г. у Міхалове.

### Помнікі матэрыяльнай культуры

У Міхалоўскай гміне захаваліся ветракі каля вёскі Мацейкава Гара і на каленіі Шымкі. Раней — пакуль не затапілі — быў яшчэ невялікі ветрачок у Ï. Палецкага ў Гарбачах. Мала ўжо хто памятае ветраны млын А. Гаранюка з вёскі Кабылянка. Гэты майстар-самавук прыстасаваў вятрак да іншых прац — да пілавання бярвенняў на дошкі. Зараз штораз менш ветракоў відаць на ўзгорках за аселіцамі нашых вёсак. Калі і захаваўся які-небудзь, то пашчапалі і абдзёрлі яго прабушаваўшыя незлічоныя віхуры, навальніцы ды іншыя нягоды. Стаіць ён забыты, адзінокі, бяскрылы. А быў жа час, калі нястомна махаў ён пёрыстымі крыламі і працавіта тарахцеў над асьмінаю жыта, каб ператварыць яе ў пухкую, белую муку.

Дзьмуў роўны ветрык, і вятрак размашыста загортваў яго пругкія павевы сваімі крыламі ды аж тросся ад працавітай натугі. Бурчэлі жорны і з жалабка цёк у кораб плаўны струменьчык мукі, як непаспешліва цыклі калісьці дні, гады, дзесяцігоддзі...

Ветракі будавалі саматуж з дрэва. Але які пры гэтым быў прастор невычэрпнай кемлівасці і залатым рукам народных майстроў-цесляроў! Вырабіць усе тыя зубочкі ў шасцярнях і колах, перакладзінкі і пёры ў крылах, каўшы і жалабкі пры жорнах, валы і ўсходы-драбінкі — на гэта трэба было і настойлівай працы і ўмення.

Каля вёскі Мацейкава Гара захаваўся стрыжнёвы вятрак („казляк"). У аснове сваёй канструкцыі мае ён козлы з тоўстых друкоў, сцены абітыя дошкамі ды двухсхільную страху з „залобкам", пакрытую гонтам. Увесь „казляк" трымаецца на тоўстым бервяне, укапаным у зямлю, пры дапамозе дышля можна яго адпаведна наставіць крыламі „пад вецер". Крылы ветрака сканструяваны з лёгкіх, але моцных брусоў. Значную частку лёгкіх дашчулак-пёркаў можна было здымаць, калі дзьме вялікі вецер, і начэпліваць іх, калі трэба павялічыць ветраную цягу.

Працоўны шлях ветракоў беспаваротна закончыўся. Відаць іх там-сям на пагорках як след адышоўшай назаўсёды эпохі ў жыцці і працы народа. А яшчэ крыху счакаўшы па крылатым работнічку застанецца толькі ўсяго тае памяці, што ўзгорак за сялом нейкі час людзі будуць зваць „ветрачыскам". Потым забудуцца...

Варта дадаць, што на тэрыторыі Міхалоўскай гміны да помнікаў матэрыяльнай культуры належаць, між іншым, цэрквы, касцёлы, дворскія збудаванні з пераломы XVIII і XIX стагоддзяў у Геранімове, а таксама старадаўнія вясковыя будынкі ў Плянтах, Шымках, Залешанах і ў Старой Луплянцы.

*(працяг будзе)*

ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ

# АЎСТРАЛІЙЦЫ ТАНЦУЮЦЬ ЛЯВОНІХУ

Ужо сорак гадоў Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі распаўсюджвае інфармацыі пра Беларусь і беларусаў сярод аўстралійцаў. І вось адносна нядаўна, бо ў ліпені мінулага года генеральнаму сакратару гэтае заслужанае арганізацыі Алесю Алехніку патэлефанавала з горада Гасфорд каля Сіднея спадарыня Полак з незвычайнай просьбай. Паінфармавала яна, што факультэты вышэйшых навучальных устаноў арганізуюць конкурс народных танцаў розных краін свету і яе дачушка Фіёна „сваёй" краінай выбрала Беларусь. У сувязі з гэтым жанчына прасіла дапамагчы дачцэ інфармацыяй пра Беларусь і паказаць ёй беларускі дзявочы народны ўбор. Алесь Алехнік гэтую просьбу выканаў.

Конкурс народных танцаў краін свету прайшоў удала і „нашая" Фіёна Полак заваявала першае месца на правінцыйным аглядзе і другое месца на цэнтральным агглядзе ў Сіднеі. Уся беларуская грамада горада Сіднэй шчыра віншуе Фіёну і яе бацькоў!

На здымку — Фіёна Полак у беларускім народным уборы перад конкурсам.



# ДЫРЭКТАР

Многія беларусы з Беласточчыны выехалі ў шырокі свет. „Ніва" ад 15 жніўня 1993 года пісала пра дырыжора Івана Палавянюка. Сёння хачу напісаць пра яго брата. Сцёпа Палавянюк нарадзіўся ў 1956 годзе ў Парцаве каля Бельска. Вучыўся тут да чацвёртага класа а затым, калі бацькі перасяліліся ў Бельск-Падляшскі, паступіў у „тройку". Вучыўся ён добра і марылася тады яму стаць дырэктарам вялікага прадпрыемства. Пасля закачэння Беларускага ліцэя ў Бельску, далейшую навуку прадаўжаў на Заатэхнічным факультэце Сельскагаспадарча-тэхнічнай акадэміі ў Ольштыне. Закончыўшы акадэмію стаў працаваць дырэктарам на птушкагадоўчым прадпрыемстве. Яго дзіцячыя мары, можна сказаць, споўніліся, але цяпер паявілася думка пра ўласную фірму. У 1991 годзе адкрыў ён сваю краму з адзеннем і абуткам; цяпер у ёй працуе чатыры асобы.

Сцёпа, хаця яму на чужыне жывецца добра, сумуе па роднай старонцы. У размове са мною ўспамінаў ён сваіх бацькоў, якія надалей жывуць у Бельску-Падляшскім і чытаюць „Ніву", настаўнікаў, сяброў. Гаварыў таксама пра сям'ю Бабулевічаў: пра іхні вятрак, які і малоў, і рэзаў сечку, пра стогадовую бабулю іхнюю і пра вырабы з саломы. Успомніў таксама верш Янкі Купалы, які вывучыў у маладыя гады:

*Ночка цёмная на свеце*
*Вечна не начуе*
*Зерне кінутае ў ніву*
*Ўсходзіць ды красуе.*

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

### Частка V

Уся творчасць Уладзіміра Клішэвіча адзначаецца дапрацаванасцю і прадуманасцю. Аўтар пазбягаў паэтычных хібаў, мабыць, шліфуючы свае вершы да таго часу, калі набывалі яны паэтычную дасканаласць. Зразумела, што сказанае ў меншай ступені адносіцца да яго паэзіі 1930-1936 гадоў. У тым часе абавязваў ва ўсёй беларускай літаратуры прынцып прыярытэтнай дамінацыі зместу над формай, які быў акрэслены тэарэтыкамі сацыялістычнага рэалізму. І, зразумела, кожны пісьменнік быў прымушаны да яго стасавацца. Творы іншага накірунку не маглі быць публікаванымі, гэта значыць, былі асуджаны на смерць. Зрэшты, калі ў часе вобыскаў НКУС знаходзілі неапублікаваныя вершы, факт гэты, як правіла, лічыўся доказам антысавецкай дзейнасці паэта, які, моў, пісаў, але не друкаваў, бо яго творы мелі антысавецкі характар.

У такой сітуацыі ўсе пісьменнікі стараліся пісаць так, каб іх творы былі не толькі адназначна прасавецкія але і каб у ніякім выпадку нельга было імі паслугоўвацца як антысавецкімі доказамі.

Вядома, Уладзімір Клішэвіч аб гэтым вельмі добра ведаў, і мабыць, стараўся рабіць з гэтага адпаведныя вывады. Ці, аднак, не рабіў памылак, якія маглі быць выкарыстаны супраць яго? Рабіў. Прыкладам можа быць яго верш „Званы", напісаны ў 1931 годзе, які быў другім годам сталінскага тэрору. Варта прывесці гэты кароткі рэфлексіўны верш, які быў верным адбіткам настрою ды інтуіцыі трывожнай паэтавай душы.

*Чаму так клічуць хараша яны,*
*на вежы царкоўнай забытыя званы?*
*Вячэрні час. Марозная зіма,*
*Гуляючых людзей на вуліцах няма...*
*Ізноў званы... Душы гудзе адказ:*
*Звіняць званы ужо апошні раз.*

Ведаючы сёння падыход і аргументацыю так званых аглобленых сацыялагічна-вульгарных і сацыялістычных крытыкаў, трэба сказаць, што стварэнне паэтам гэтага верша было вялікай неасцярожнасцю. У яго змесце знаходзім рад сцвярджэнняў, якія былі смачнымі кавалкамі для сталінскіх крытыкаў. А яны з выключнай палітычнай чуйнасцю вылаўлівалі з вершаў усё тое, што не пахла сацыялістычным аптымізмам і радасцю савецкага жыцця.

У прыведзеным вершы няма ані аптымізму, ані радасці. Мала гэтага, выступаюць у ім як жа заганлівыя для таго часу ноткі песімізму, містыцызму і прадвяшчання смерці. Тагачасны савецкі паэт не меў права на тое, каб бачыць нешта прыгожае ці прывабнае ў рэлігіі і царкве, не мог таксама гаварыць аб бесперспектыўнасці чалавечага жыцця. А ў працытаваным вершы выступае і захапленне хараством царкоўнай песні, і песімізм.

Не можа быць гутаркі аб тым, што Клішэвіч, жывучы ў савецкай рэчаіснасці каля пятнаццаці гадоў і беручы актыўны ўдзел у літаратурным жыцці, не ведаў аб тых патрабаваннях, якія ставіліся перад тагачаснай беларускай літаратурай. Ведаў вельмі добра. Дык чаму ж напісаў такі верш? Адказ можа быць толькі адзін. Уладзімір Клішэвіч не пагадзіўся з тымі вузкімі рамкамі свабоды, або можа лепш сказаць з той цеснай клеткай зняволення, у якую крытыкі пры дапамозе следчых органаў стараліся загнаць беларускую літаратуру. Паэт свядома напісаў верш, які адлюстроўваў яго настрої і ў якім адлюстравалася пераканане аб тым, што надыходзіць грозны час для царквы, час, у які назаўсёды замоўкнуць царкоўныя званы. І гэта сведчыць аб тым, што Клішэвіч паэтычную праўду ставіў вышэй, чым клопат за ўласны дабрабыт і выгады жыцця, а нават за ўласную свабоду.

На падставе аднаго верша нельга рабіць з пісьменніка героя і барацьбіта. Зусім магчыма, што Клішэвіч у жахлівых гадах сталінскага тэрору, так як гэта рабілі амаль усе беларускія пісьменнікі, пісаў таксама творы, якія сведчылі аб палітычным сервілізме. На жаль, не ведаем усёй творчасці паэта гэтага суровага часу. Толькі ўсе яго тагачасныя вершы маглі б даць адказ на такое пытанне. Ведаючы сёння многае аб парадках таго перыяду, можна думаць, што і ў Клішэвіча выступілі праявы слабасці і адступленне ад таго, што называем сёння пісьменніцкім сумленнем. Калі б нават так было, дык па-мойму, адзін толькі верш „Званы" ў значай ступені рэабілітуе паэта, сведчыць аб тым, што ў глыбіні яго душы хавалася чысціня, якая супрацьстаўлялася бруднай хвалі сталінскіх праследаванняў беларускай духоўнасці.

АЛЕСЬ БАРСКІ






## ПРОСТА АНЕКДОТ

Сабраліся на тым свеце трое нябожчыкаў. Разгаварыліся між сабою — хто як трапіў... Першы і гаворыць:

„Маўляў, па дурнасці трапіў... Прыйшоў з работы, паабедаў, а тады выйшаў з пад'езда, сеў у свой „Паланез", і толькі гэта паехаў ля пад'езда дома, а тут ні з таго, ні з сяго зверху з дванаццатага паверха халадзільнік на машыну — бац... Ну, канечне, мне тут жа і крышка..."

Першы скончыў, другі пачынае:

„Прыйшоў на работу, сяджу ў канторы за сталом, і тут мне званяць: спяшайся дамоў, паглядзі, чым твая жонка без цябе займаецца... Ну, я і пабег. Прыбягаю ў пад'езд — як заўсёды ў такіх выпадках, ліфт не працуе. Я тады бягом на дванаццаты паверх. А сэрца хворае было. Адчыняю дзверы — адзене мужчынскае раскідана па хаце, а самога мужчыны нідзе няма. Я туды, сюды — ні ў шафе, ні пад ложкам, нідзе няма, як скрозь зямлю праваліўся. Расстроіўся я, за халадзільнік ды — кідзель яго з акна. Як угледзеў, што халадзільнік у машыну бацнуўся, пасля ўсяго, што перажыў, — разрыў сэрца..."

„Ну, а ты як сюды трапіў?" — пытаюцца двое ў трэцяга.

„А я ў тым халадзільніку сядзеў".

*Размову падслухаў*
**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**




*Малюнак П. Козіча*

## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

**Рэзалюцыя маршала**

Аляксей Карпюк у часе баёў за Берлін быў паранены. Усе, хто ўдзельнічаў у гэтых баях, былі ўзнагароджаны медалём „За ўзяцце Берліна". Карпюку не пашанцавала, ён трапіў у шпіталь. І вось аднойчы пісьменнік вырашыў звярнуцца з просьбай аб узнагародзе да міністра абароны колішняга Савецкага Саюза маршала Г. К. Жукава. Тут жа ён напісаў ліст і свайму дзядзьку, маўляў, табе там нялёгка жывецца, прыязджай да нас, тут хоць бульбачка ёсць. Неяк так выйшла, што гэты ліст ён паклаў у канверт, адрасаваны Жукаву, а ліст для Жукава адправіў дзядзьку. Неўзабаве да Карпюка з'явіўся пасыльны і запрасіў у ваенкамат. Думаючы, што будуць уручаць медаль, Аляксандр Нічыпаравіч надзеў новы касцюм.

— Гэта вы пісалі пісьмо таварышу Жукаву? — спытаў ваенком.

— Пісаў, а што — прыслалі медаль?

— Прашу азнаёміцца з рэзалюцыяй маршала і распісацца, — адказаў ваенком.

На лісце свайму дзядзьку Аляксей Нічыпаравіч прачытаў: „Прашу паведаміць т. Карпюку, што я з ім ні ў якім сваяцтве не знаходжуся. Г. Жукаў".

Хутка прыйшоў адказ і ад дзядзькі: „Дарагі пляменнік, які я табе маршал? Я твой дзядзька..."

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя")**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(праця; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### ПРЫВІДЫ ХАТНІХ ЖЫВЁЛ

**Прывід сібірскага ката князя Паскевіча**

Здаўна ў Гомельскім парку культуры і адпачынку, перапробленым з сядзібы князя Паскевіча-Эрыванскага, увагу наведвальнікаў вабіць вялікі валун з выбітым на ім надпісам „Лордъ". Як сцвярджаюць гісторыкі-зданезнаўцы, пад гэтым каменем пахаваны ўлюбёны сібірскі кот магната. Пры жыцці кот Лорд праславіўся тым, што не толькі спраўна лавіў мышэй і нават пацукоў у палацы гаспадара, але і ўдзельнічаў ва ўлюбёных забавах Паскевіча — у паляваннях на дробную жывёлу і на прыгонных палешукоў. Дарэчы, заслугоўвае ўвагі і сама тэхналогія палявання, распрацаваная фаварытам расейскага імператарскага двара: егер, сядаючы на каня бра ў ката на рукі і калі наганяў сваю ахвяру, кідаў хатняга драпежніка ёй на плечы. Кот са злосным вуркатаннем у момант перацінаў артэрыю і цягнуў яшчэ цёплую здабычу да гаспадара. Так працягвалася да тых часоў, пакуль кот не натрапіў на палешукасіфілітыка, і праз некаторы час сканаў у жахлівых пакутах. Удзячны князь пахаваў свайго ўлюбёнца на высокім беразе Сожа, каб падчас шпацыраў з паненкамі па парку мець нагоду для прыемных успамінаў і гаворкі.

Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў, нашчадкі князя былі расстраляны, а сядзіба была перароблена на асяродак выхавання юных ленінцаў — нашчадкаў прыгонных палешукоў. Новыя гаспадары паводзілі сябе ў новых, цалкам нязвыклых, варунках шыкоўнага палаца, як і мае быць: паскудзілі ў саксонскі фарфор, покуль ён быў цэлы, прадавалі на рынку абсталяванне, што засталося ад былых уладальнікаў, а на грошы, прыдбаныя ад гандлю, куплялі медычны спірт. Між іншым, дзеткам вельмі спадабалася ладзіць свае алкагольныя оргіі (да сапраўднага сексу яны яшчэ не дараслі) на валуне-надмагіллі ўлюбёнца былога гаспадара.

Дзеці знікалі і тады, але для выхавацеляў у часы паміж ваенных ліхалеццяў гэта падавалася цалкам натуральным. Але ў 1954 годзе, калі раптоўна знік сын прысланага з Тамбова партфункцыянера, пачалося афіцыйнае расследаванне. Гэтым разам да паказанняў непаўналетніх п'яніц прыслухаліся, а яны паказвалі наступнае:

Спачатку дзіцячыя забавы ішлі як звычайна: юныя ленінцы пілі, білі пляшкі аб надмагілле, займаліся мастурбацыяй, частавалі адзін аднаго падабранымі на паркавых алеях недакуркамі. Але сын тамбоўскага партфункцыянера вырашыў навучыць новых сяброў улюбёнай забаве рускіх падлеткаў, а менавіта: „Хто зробіць сікунамі ў зямлі глыбейшую свідравіну?"

Відавочна, перамагаў спрактыкаваны ў гэтай азартнай гульні рускі падлетак, але атрымаць асалоду з гэтага ён так і не паспеў: з-пад зямлі высунулася калматая лапа, намацала струмень на кіпцюры і зацягнула пераможцу пад камень. Зляканыя дзеці кінуліся наўцёкі.

Следчыя напачатку не далі веры пачутаму, але на ўсялякі выпадак адвярнулі надмагілле. Дол поўніўся дзіцячымі касцьмі з яшчэ свежымі кавалкамі мяса. На чалавечых рэштках ляжаў некранутым цвіллю вялізных памераў кот, уткнуўшыся пысай у адкушаную галаву прапагандыста расейскіх народных гульняў. На жаль, далейшы лёс гэтай жудаснай пачвары невядомы: службы бяспекі, змясціўшы сваю знаходку ў свінцовы кантэйнер, звезлі яе ў Маскву, а матэрыялы следства засакрэцілі.

На прыкладзе гэтай гісторыі можна яшчэ раз пераканацца, што да гульняў іншых народаў трэба ставіцца вельмі асцярожна.

*(працяг будзе)*
Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС**
**І МАРЦІН ЮР**

## ЖАНОЧАЯ ПІЛЬНАСЦЬ

— Ты ж, браце, быў,
ну, чым не Пушкін!
А зараз дзе твая чупрына?
Няўжо пяро чужой падушкі
І сапраўды было прычынай?

— Ды не... Пільнуе надта жонка,
Чуць што, крычыць:
„Дзе чэрці носяць!!"
Пра валасы й казаць няёмка —
На дзве-тры сваркі засталося.

**УЛАДЗІМІР ЕРМАЛАЕЎ**

## СЕНТЭНЦЫІ

У цемры і бель чорная.

* * *

У барацьбе здрады і вернасці прайгрывае шчырасць.

* * *

Паводка слоў і залатую думку змяце з пастамента.

**БАРЫС РУСКО**




Мілае Сэрцайка! Табе вельмі часта пішуць распусныя дзяўчаты, якія раскідаюцца сваімі пачуццямі налева і направа, ані крышачку не шануючы пры гэтым і свайго цела. Мне сёння 18 гадоў і, смех прызнацца, я яшчэ не страціла свайго дзявоцтва.

Калі мы размаўляем з сяброўкамі на эратычныя тэмы, яны з мяне найчасцей смяюцца. Адны — іранічна, бо і так упэўнены, што я маню, быццам не была яшчэ ў пасцелі з ніводным хлопцам; другія — з нейкай літасцю, маўляў, ідыётка, марнуе свой час, а маладосць жа, ой, як хутка яна пройдзе... А што ж ужо тады?.. Дом, муж, дзеці, абавязкі.

Але мама (ад таго часу, як я стала „жанчынай") растлумачыла мне, што аддацца варта толькі тады, калі буду ўпэўнена, што кахаю, ну, і, вядома, што ён таксама кахае мяне. І так чакала я свайго вялікага кахання, пакуль амаль не здарылася катастрофа. А сяброўкі часу не марнавалі: кахаліся на прыватках, у парках, нават у школе, калі толькі надарылася дзе якая нагода. І не заўсёды з тымі хлопцамі, для якіх яны сапраўды страцілі галаву.

У нас ёсць сусед, чалавек у сіле веку, гадоў сарака з лішнім. Быў заўсёды ў адносінах да нашай сям'і надта мілы, таксама, як і яго жонка, і дзве дочкі. Жылі мы праз пару дамоў, дык нічога дзіўнага, што ён даведаўся пра мой выезд на Захад да цёці, дзе я мінулым летам збіралася правесці канікулы.

Сустрэў мяне на вуліцы і запытаў, ці не магла б я там купіць яму нейкі элемент для тэлевізара, бо ён яго купіў на Захадзе, а ў нас такіх якраз не прадаюць. Каштуе гэта грашакі, кажу табе, толькі каб ты ведала, што трэба купіць, бо без гэтага мой тэлевізар не будзе працаваць. Зайдзі, калі ласка, сёння ці заўтра, я табе пакажу. Пасля працы буду дома!

Не прадчуваючы нічога дрэннага, я пазваніла ў дзверы суседа на другі дзень вечарам. Сапраўды, адразу паказаў ён мне сапсаваную частку, як яна выглядала, і напісаў на паперы, як называецца. У хаце было ціха. Я спыталася, дзе ж гэта рэшта. Аказваецца, жонка з дзецьмі выехала на тыдзень на вёску. Заўчора завёз іх самаходам. Больш распытваць сусед мне не дазволіў. Схапіў мяне за грудзі, пачаў цалаваць. Гладзіў мае валасы, цалаваў шыю. Я вырывалася ад яго што было сілы. А ён шалеў усё больш. Прабаваў сцягнуць з мяне блузку, я не давалася, павырываў гузікі. Проста паводзіў сябе, быццам нейкі звер, а быў да таго вялікі і моцны. Я адчувала, што праз момант ён мяне згвалтуе, бо не змагу абараніцца. Сабраўшы ўсю сваю злосць у зубы, я ўкусіла яго ў жылістую руку, што аж войкнуў. І неяк адразу ўсё ў яго прайшло, ён заняўся сваёй рукой, быццам бы нічога важнейшага для яго ўжо не існавала. Прынёс мне з другога пакоя шкатулку з ніткамі і сказаў, каб папрышывала сабе гузікі да блузкі.

Я дзякавала Богу, што ён так раптоўна апрытомнеў, бо як жа ж я магла б у такой блузцы паказацца бацькам... Ад таго часу я абмінаю той дом і не вітаюся з гэтым суседам. А наогул дык стараюся сыходзіць яму з вачэй. Вось так, Сэрцайка. Але мушу табе прызнацца, што я крыху і ганаруся сабою.

**Люська**

Люська, даражэнькая! Ты сапраўды герой. Умееш бараніць свой гонар. Тым больш, што і законы б тут цябе не апраўдалі. Паводле суда, ідучы вечарам да адзінокага мужчыны, ты мела б права меркаваць, што ён цябе запрашае ў вядомых мэтах. І не дапамаглі б тут, бадай, аргументы, што ты ішла да старэйшага дзядзькі, які жыве з сям'ёй, ды каб паглядзець на той элеменцік для тэлевізара.

А ён паляваў на цябе, здаецца, як толькі завёз сям'ю на вёску. Мо не спадзяваўся, што сярод сённяшніх васемнаццацігодак здараюцца яшчэ дзяўчаты, якія захавалі сваё дзявоцтва. А мо проста вельмі ты яму падабалася, дык не мог паўстрымацца, і невядома, што было б, калі б ты не ўкусіла яго. Але табе сапраўды брава! Думаю, што ты свайго хлопца дачакаешся.

А сяброўкам-недаверкам скажы, што твая маладосць будзе доўгая, бо выбярэш сабе мужа, якога будзеш кахаць пасапраўднаму, і рабіць тое, што, як ім здаецца, робяць толькі ў маладосці. Нягледзячы на дом, дзяцей, працу, кожная пара жыцця можа быць мілай.

**СЭРЦАЙКА**